PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 6 (2126) Год XLII Беласток 9 лютага 1997 г. Цана 1 зл.



*Паніхіду адслужыў а. Георгій Такарэўскі ва Уваскрэсенскай царкве.*

## Нам трэба спяшацца

Ганна Кандрацюк

**У аддаленым на два кіламетры Спешыне чулі, як мардавалі фурманоў у пухалаўскім лесе. Адгалоскі злачынства разносіліся жахлівым рэхам па наваколлі. Праўдападобна ашчаджалі патроны. Забівалі ломам у галаву або штыком у жывот. Магілы таксама не выкапалі, мароз стаяў люты тады. Раструшчаныя целы кідалі ў гатовыя ямы з-пад бульбы. Пазней мясцовыя людзі бачылі, як лісы па лесе чалавечыя чэрапы валачылі.**

Такі жахлівы расказ пачулі ўдзельнікі чарговай пілігрымкі ў Пухалы-Старэ і Кліхі. Ад трагічных здарэнняў у 1946 годзе ў лесе непадалёк Пухал-Старых, у Залешанах, Вольцы-Выганоўскай, Занях, Шпаках, мінула больш за паўвека. Час падлячыў раны, дазволіў сказаць пра жорсткую праўду. 26 студзеня г.г. у Бельску-Падляшскім зноў сустрэліся родныя, сваякі ахвяр з 1946 года. Найбольш народу пабывала на паніхідзе ва Уваскрэсенскай царкве. Разам з сем'ямі памардаваных маліліся многія прыхаджане. Айцец Георгій Такарэўскі завяршыў сваю прамову словамі:

— Нам трэба памятаць пра гэту трагедыю, каб у будучыні такое ніколі ўжо не паўтарылася.

Святар асвяціў таксама мемарыяльныя дошкі, якія памясцілі на крыжах у Пухалах-Старых, Кліхах і бельскіх вайсковых могілках.

### Не трэба палітыкі

Побач крыжа на бельскіх ваенных могілках сабралася таксама нямала народу. Публіка была аднак не тая, што ў царкве. З вянкамі прыйшлі былыя працаўнікі міліцыі, бяспекі, дэлегаты ZBoWiD — ветэранскай арганізацыі. Прысутнічалі таксама паслы беластоцкай зямлі — Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі.

— Są wśród nas posłowie. Nie będę wymieniał jacy, — прывітаў гэтых гасцей у атмасферы ананімнасці арганізатар.

— Można powiedzieć, — упомніўся пасол Сяргей Плева.

Другі пасол хутка развітаўся з публікай, апраўдваючыся мноствам працы.

— Справу грамадскага камітэта я прадставіў ужо месяц таму Акруговай камісіі па даследаванні злачынстваў над польскім народам (OKBZNP), — сказаў пасол Плева.

На дапамогу гэтага палітыка спадзяюцца многія члены камітэта. Але і ёсць іншыя меркаванні.

— Мне то здаецца, што не трэба запрашаць нам палітыкаў і паліцыянтаў, — сказаў жыхар падбельскай вёскі (таксама ахаваўшыся ў ананімнасць).

— Каб не закрашваць нашай трагедыі палітыкай. Памардаваныя звычайнымі людзьмі былі, сялянамі. Загінулі, бо так хацела нейкая дзікая хеўра. Зрабілі на кацапаў паляванне і пабілі. А зараз пачнуць гаварыць, што за камуністычныя сімпатыі іх пакаралі.

— Не трэба палітыкі, не трэба, — ціха паўтаралі і іншыя вяскоўцы.

— Бо што то будзе, як улада зноў зменіцца? — дадаў прыхільнік ананімнага і апалітычнага становішча.

### У дарозе

На месцы забойства, людзі расказваюць пра сваіх братоў, бацькоў, мужоў. Спадарыня Вера Макарэвіч прыехала з Беластока. Сама яна родам з Пасечнік-Вялікіх. Сярод забітых вазакоў быў яе брат Алёша.

— Тады было яму 16 гадоў. Уначы на забаве ў Арэшкаве яшчэ гуляў. Раніцай паехаў у Лазіцы па дровы для школы. З іх вёскі адзін вазак вярнуўся аж з Пухалаў-Старых. Ацалеў, бо каталікам прыкінуўся. Побач кожнага касцёла шапку знімаў і хрысціўся па-каталіцку. Ён расказаў сям'і Галёнкаў (спадарыня Макарэвіч з роду Галёнкаў) пра трагедыю ў пухалаўскім лесе. Пазней спадарыня Вера ездзіла ў Пухалы-Старыя, людзей распытвала. Зайшла ў адну хату, дзе пасля малацьбы абедалі. Але там маўчалі. У іншай хаце адправілі яе ў Кліхі. На могільніку адшукала магілу. Мяс-

[працяг ☞ 4]

Аляксандр Вярбіцкі

## Утрымаць фестываль

**19 студзеня, гадзіны дзве перад пачаткам раённага агляду калядных калектываў у Гайнаўцы, правёў я кароткую размову з дырэктарам Гайнаўскага дома культуры Мікалаем Бушко. Кароткую, бо: *primo* — часу ў дырэктара было тады мала і *secundo* — тады ты харошы, калі маеш грошы.**

Адразу хачу растлумачыць апошняе, каб каму не падумалася, што гутарка адбывалася недзе ў рэстаране ці ў наваколлі вясковай нашай крамы, дзе повязь паміж колькасцю грошай і працягласцю размовы відавочная. Справа ў тым, што мяне цікавіў сёлетні план дзейнасці ГДК, а дырэктар Бушко не надта мог мне на гэта адказаць, бо ўсё залежыць ад бюджэту. Абяцаных казною грошай не хопіць нават на зарплаты працаўнікам. Сродкі на другія расходы трэба выпрацаваць або выстарацца. Самымі галоўнымі мерапрыемствамі, якія плануюцца ГДК у гэтым годзе, з'яўляюцца XVI Фестываль царкоўнай музыкі і IV Літаратурная восень. У літаратурныя справы я не ўмешваюся, не мая гэта дзялянка. А вось з Фестывалем, які з'яўляецца бадай галоўным паказчыкам нашай тут прысутнасці, справа не такая простая. Зверху ідзе націск, каб фестываль неяк абмежаваць; мо толькі для выканаўцаў з Польшчы, мо да *Biennale*, *Triennale* etc. Каб *разводніць*. Асабліва тут „стараюцца" тыя, якія даюць найменш грошай. Міністр Ягела, праўда, падзякаваў дырэктару Бушко за праведзеных дагэтуль 15 фестываляў, выказаў аднак занепакоенасць, ці Гайнаўка арганізацыйна вытрымае, хаця ад двух гадоў колькасць выканаўцаў стабілізавалася і яшчэ ёсць намер, каб адвесці тут больш месца для краёвых калектываў. Найменш грошай фестываль дастае ад ваяводы, хаця павінен найбольш. Дырэктар удзячны яму і за тое, але гадзілася б больш. Добра было б таксама, каб і Управа горада Беластока заўважыла, што фестываль з'яўляецца вялікай прамоцыяй іх горада. Ва ўсіх фестывальных матэрыялах ёсць інфармацыя пра Беласток, арганізуецца там фестываль-біс, а ад дзесяці гадоў праводзіцца там другі гала-канцэрт. У мінулым годзе дырэктар Бушко звяртаўся да ўлад горада Беластока за грашовай падтрымкай — беспаспяхова, ды і сёлета сумняваецца, з увагі на палітычную арыентацыю ўлад Беластока, ці ёсць у такіх стараннях сэнс.

Калі мова пра рэгіянальныя мерапрыемствы, дык ГДК штогоду арганізуе конкурсы і агляды беларускай пес-

[працяг ☞ 4]

# Мы прачыталі

*Бяспраўны рэжым на Беларусі пачаў фармавацца адразу як толькі да ўлады прыйшоў былы дырэктар саўгаса і супрацоўнік КДБ А. Лукашэнка. Пракамуністычна, прарасейска арыентаваны функцыянер, стаўшы прэзідэнтам Беларусі, пачаў апірацца на найбольш рэакцыйныя колы ваенных камуністычных пенсіянераў, маргінальныя пласты насельніцтва, „сацыялістычную” вёску і расейскія спецслужбы. Выразна вызначыўся курс на ліквідацыю дэмакратыі і незалежнасці Беларусі, знішчэнне беларускай мовы, школы, друку і гуманітарнай навукі. У першы 1995/1996 навучальны год Лукашэнка зачыніў сотні беларускіх школ. Паўсюдна, сілком і ашуканствам зноў адчыняюць беларусам рускія школы. Па асабістым распараджэнні Лукашэнкі былі знішчаны новыя беларускія падручнікі для школаў і рэкамендавана вярнуць рускія камуністычныя. Праследвaеццa за размову на беларускай мове, за пашану нацыянальнага бел-чырвона-белага сцягу і герба „Пагоня”, за павагу да нацыянальных традыцыяў, за сведчанні нацыянальнай свядомасці. Кіраўнікі і афіцыйныя асобы беларускай нацыянальнасці замяняюцца рускімі, аддaнымі прэзідэнту з антыбеларускімі поглядамі.*

Беларус, н-р 440

* * *

*Demokracja w kapitalizmie polega na tym, że im więcej masz pieniędzy, tym więcej masz do powiedzenia.*

Wprost, nr 3

Таксама сумнае як камунізм!

* * *

*Wszyscy dokładamy do telewizji, płacąc rocznie ponad 3 biliony starych złotych za abonament. Na co idą te pieniądze? W pierwszym półroczu 1996 r. średnia płaca w TVP wynosiła 2 274 zł., zaś wśród dziennikarzy 3 218 zł. Prezes zarządu pobiera co miesiąc bez premii i dodatków 12 tys. zł (120 mln starych zł.), pozostali członkowie po 9,3 tys. Reporterzy zarabiają miesięcznie po 12 tys. zł. Zaradny kierownik produkcji zarabia niekiedy dwa razy więcej niż prezes. Okazją do prawdziwie godziwych zarobków w telewizji są honoraria. Za scenariusz do programu można było zarobić 5,4 tys. zł., za opracowanie pytań do wywiadu 1,8 tys. zł. Pomoc na planie, czyli prace typu: przynieś, wynieś, pozamiataj niekiedy wyceniano na 6 tys. zł. Sekretarka w zależności od tego komu łączy może mieć pensję od 900 do 1 900 zł., kierowca od 900 do 2 000 zł. Miłym uzupełnieniem do pensji są zawsze dodatkowe przywileje — samochody służbowe, telefony komórkowe, wyjazdy grupowe na festiwale filmowe, przeglądy, targi, obiady, kolacje, przyjęcia na koszt firmy.*

Polityka, nr 3

Каб прынамсі было што паглядзець!

* * *

*W Pabianicach dwóch nastolatków zamordowało mężczyznę. Dla zabawy butelką po winie, drugiego okaleczyli, lekarze założyli ponad 50 szwów na twarzy i szyi. Jeżeli będą sądzeni przed sądem dla nieletnich, dostaną najwyżej 4 lata poprawczaka. Jeden z zabójców Arek oznajmił sędziemu, iż jest człowiekiem wolnym i może robić, co chce, nawet zabić. Obaj z dumą opowiadali o swoich makabrycznych wyczynach. Sześć godzin po morderstwie drugi z zabójców Adam poszedł do kościoła. Tego dnia odprawiano nabożeństwo w intencji zmarłych. Adam służył do mszy, przyjął komunię. Wychodząc z kościoła miał już czyste ręce, obmył je z krwi.*

Gazeta Wyborcza, nr 15

* * *

*Jedyną zmianą w programie lokalnym telewizji białostockiej jest likwidacja audycji dla mniejszości narodowych. Mniejszości narodowe a głównie Białorusini byli głównym atutem Białegostoku w staraniach o powołanie regionalnej telewizji publicznej. Kiedy to już się stało, dyrektor Puciłowski chce Białorusinom pokazać figę z utworzonego przez siebie „okienka kresowego”.*

Kurier Poranny, nr 20

Усё згодна з традыцыяй „Kresów”.

* * *

*Ideałem Kościoła jest ksiądz ubogi,* — uważa abp Józef Michalik.

Gazeta Wyborcza, nr 12

480 гадоў таму тое самае сказаў Марцін Лютар і вядома як гэта закончылася.

* * *

*Do chorej na serce mieszkanki Płużnicy została wezwana karetka pogotowia. Podczas próby zbadania chorej zwaliła się na nią pijana lekarka. Zaraz potem spadła na podłogę, ale jej sanitariusz pomógł wstać. Według zeznań poszkodowanej pani doktor powtarzała: „bee, bee...”*

Gazeta Wyborcza, nr 13

* * *

*Protesty służby zdrowia przybierają na sile. Stają się wręcz dramatyczne. Część społeczeństwa (przeważnie ta zdrowa) solidaryzuje się z protestami służby zdrowia; część (ta aktualnie słabująca) zaczyna się im przeciwstawiać. Dochodzą też do głosu ci, których zawsze gorszył widok luksusowych samochodów stojących przed każdym szpitalem, oraz szara strefa, w której pacjent z własnej kieszeni opłaca usługi świadczone mu w publicznych instytucjach służby zdrowia. Teraz sytuacja zmusza chorych do odwiedzania prywatnych gabinetów lekarzy, tych samych którzy, „publicznie strajkują”.*

Polityka, nr 3

# З мінулага тыдня

**У Літве** дзейнічае амаль трыццаць культурных і грамадска-асветніцкіх арганізацый беларусаў. Нядаўна іх прадстаўнікі правялі першую сустрэчу, дзе было прынята рашэнне стварыць аб'яднанне беларускіх грамадскіх арганізацый, асноўнымі напрамкамі дзейнасці якога будуць работа па захаванні роднай мовы, вывучэнне гісторыі, культуры, звычаяў і традыцый беларускага народу.

**Лаўрэатамі сёлетніх прэмій імя князя Канстанціна Астрожскага**, якія ўжо восьмы раз прысвойваюцца рэдакцыяй штомесячніка „Przegląd Prawosławny”, сталі: **Мікалай Гайдук** — пісьменнік, публіцыст, гісторык, перакладчык, этнограф, шматгадовы журналіст „Нівы”, аўтар падручнікаў па беларускай мове; **Дзмітрый Паспялоўскі** з Канады — эсэіст, гісторык Рускай царквы, які першы на Захадзе апісаў Святую Гару Грабарку; **Анджэй Турчынскі** — паэт, празаік і эсэіст, якога творча інспіруюць праваслаўе і ўсходняя культура; **Пётр Траханоўскі** — вядомы лэмкаўскі паэт, які піша пад псеўданімам Петро Мурянка. Прэміі будуць уручацца падчас Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

**Сяргей Мартынюк** — шэф фірмы „Пронар” у Нарве атрымаў званне Ганаровага аграбізнесмена 1996 года ў конкурсе часопіса „Agrobazar” і I праграмы Польскага радыё. „Пронар” з'яўляецца другім па Трактарным заводзе „Урсус” пастаўшчыком трактароў у краіне.

**II Манастырскі аўкцыён** адбыўся ў святліцы Свята-Мікалаеўскага прыхода ў Беластоку. З публічных таргоў прадаваліся карціны мастакоў-аматараў, ювелірныя вырабы, іконы, вырабы народнага мастацтва, фарфор і альбомы. Экспанаты на аўкцыён былі перададзены прыватнымі ахвяравальнікамі — членамі і сімпатыкамі Праваслаўнага брацтва св. Мікалая. Даход з аўкцыёна папоўніць фонд рамонту будынкаў Супрасльскага манастыра.

**V Турыстычны кірмаш** „Актыўныя канікулы '97” адкрыецца ў Беластоку 13 лютага. У трохдзённым мерапрыемстве прыме ўдзел 120 фірм, якія будуць прапанаваць актыўныя формы адпачынку на экалагічна чыстых абшарах.

**Праваслаўны цэнтр міласэрнасці** ў Беластоку атрымаў ад улад горада 6 тысяч зл. датацыі на падтрымку зімовай акцыі выдавання бясплатных супоў для сацыяльна незабяспечаных жыхароў Беластока.

**У Спале** прайшоў чэмпіянат юніёраў па лёгкай атлетыцы, у якім удзельнічала больш за 800 спартсменак і спартсменаў са 164 спартыўных клубаў. Пераможцам у бегах на кароткія дыстанцыі аказаўся **Пётр Берасцюк** з беластоцкага клуба „Ювенія”, які 60 метраў пераадолеў за 6,89 секунды.

**Управа горада Беластока** адобрыла прапановы пасялковых рад аб **перайменаванні вуліц**: Паўла Фіндэра на Аляксандра Рыбніка, Вапенная на Пётра Ладзінскага і Паўла Пятрова на палкоўніка Юзэфа Туроўскага.

**У Пілікках** Бельскай гміны запаліўся жылы дом. Згарэла абсталяванне і частковa дах. Страты складаюць 10 тысяч зл. Прычын пажару не ўстаноўлена.

**Каля Падазяранаў** у Міхалоўскай гміне паліцыя ліквідавала самагонаварную ўстаноўку з 8 тысячамі літраў брагі. Гэта быў самы вялікі нелегальны спіртзавод, які ўдалося выявіць паліцыі. У ім можна было выгнаць тысячу літраў самагонкі ў тыдзень.


## Неўзабаве ў „Ніве”

- Клопаты з беларускай тэлеперадачай у Беластоцкім асяродку TV.
- Беластоцкія дзеткі таксама любяць спяваць беларускія песні, — расказвае матушка Міраслава Ціханюк.


# Весткі з Беларусі

**Беларускі дэсант**

Старшыні абедзвюх палат Нацыянальнага Сходу: Савета Рэспублікі — Павел Шыпук і Палаты Прадстаўнікоў — Анатоль Малафееў пабывалі з аднадзённым рабочым візітам у Маскве. У ходзе візіту госці абмяняліся інфармацыяй аб сітуацыі ў Беларусі і Расеі з кіраўнікамі Савета Федэрацыі — Ягорам Строевым і Дзяржаўнай Думы — Генадзем Селязнёвым. Беларускія парламентарыі выклалі сваё бачанне наконт далейшага ходу інтэграцыйных працэсаў паміж дзвюма дзяржавамі. З візітам у Маскве пабываў таксама міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч, які правёў перамовы з кіраўніком расейскай дыпламатыі Яўгеніем Прымаковым.

**БНФаўскі мітынг**

Амаль пяць тысяч чалавек сабралася 25 студзеня ў Менску на мітынгу ў падтрымку сербскай і балгарскай апазіцыі. Дэманстранты адначасна пратэставалі супраць планаў інтэграцыі Беларусі і Расеі. Выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі заявіў, што сёлетняя вясна на вуліцах Менска будзе не менш гарачай за мінулагоднюю. Асаблівага напружання можна спадзявацца ў сакавіку, паколькі на гэты месяц запланаваны тры вялікія дэманстрацыі апазіцыі. „Калі будзе такая патрэба, — дадаў Лявон Баршчэўскі, — будзем дэманстраваць кожны дзень”. Пасля мітынгу, які праходзіў каля Тэатра оперы і балета, некалькі соцень дэманстрантаў пайшлі пад расейскае пасольства, дзе скандавалі лозунгі „Незалежнасць!” і „Жыве Беларусь!”

**Еўрапейская місія**

Спецыяльная місія вядучых еўрапейскіх арганізацый Еўрапейскага Саюза, Савета Еўропы і Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) правяла ў канцы студзеня работу ў Беларусі. Члены місіі знаёміліся з грамадска-палітычнай сітуацыяй у краіне, вывучалі факты, якія маюць дачыненне да рэферэндуму, што адбыўся ў мінулым годзе, прааналізавалі працэдуру фарміравання саставу Нацыянальнага Сходу. Прадстаўнікі заходнееўрапейскіх міжнародных арганізацый цікавіліся таксама, ці ў Беларусі не абмяжоўваецца дзейнасць палітычнай апазіцыі і сродкаў масавай інфармацыі, ці ўлады не праследуюць апазіцыйных дэпутатаў распушчанага Вярхоўнага Савета. Віцэ-міністр замежных спраў Міхаіл Хвастоў падкрэсліў, што сваю згоду на прыезд місіі даў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, а экспертам была паведамлена ўся інфармацыя, якая іх цікавіла. Вынікі працы місіі будуць аб'яўлены 24 лютага г.г.

**Прапановы апазіцыі**

Нацыянальна-эканамічны камітэт — грамадскі, кааліцыйны ценявы ўрад, створаны нядаўна палітычнай апазіцыяй — мае намер прапаноўваць ураду свае законапраекты. Мэта такіх распрацовак — падказаць Савету Міністраў шляхі вырашэння актуальных праблем. Як адзначыў кіраўнік ценявога ўрада Генадзь Карпенка, гэта не азначае, што апазіцыя тым самым прызнае сфарміраваную пасля ўсебеларускага рэферэндуму заканадаўчую ўладу. „Асноўная наша задача, — дадаў Станіслаў Багданкевіч, — падрыхтоўка законапраектаў для будучага парламента і будучага кааліцыйнага ўрада”.

**Фільм паводле Ларысы Геніюш**

У Доме ветэранаў адбылася прэм'ера новай мастацкай стужкі „Птушкі без гнёздаў”, створанай на кінастудыі „Беларусьфільм” паводле аўтабіяграфічнай аповесці беларускай паэтэсы Ларысы Геніюш. Рэжысёр-пастаноўшчык — Віталь Дудзін, аўтар сцэнарыя — Яўген Грыгор'еў, у галоўнай ролі — Таццяна Кавалеўская.

**Бомбавыя жарты**

22 студзеня грамадскасць і госці беларускай сталіцы сталі сведкамі тэрміновай эвакуацыі органамі правапарадку грамадзян з двух буйнейшых аб'ектаў горада — чыгуначнага вакзала і галоўнага паштамта. Прычынай з'явіліся ананімныя званкі аб замініраванні будынкаў. Праверка не пацвердзіла наяўнасці выбуховых прыстасаванняў. У шаснаццаць гадзін чыгуначны вакзал і галоўны паштамт увайшлі ў звычайны рабочы рытм. Следчыя органы вядуць работу па пошуку аўтараў званкоў, а таксама па высвятленні ці гэта былі дзеянні бездакзных хуліганаў, ці правакацыя.

# Аб арлянскіх млынах

**Помнікі і памяць аб рэгіянальнай даўніне — гэта наша асаблівая каштоўнасць, доказы працавітасці і таленавітасці нашых продкаў, умоў іх жыцця. Пашана для продкаў, і здабыткаў іх працы — гэта рыса, якую павінны мы развіваць у нашым маладым пакаленні.**

Ужо з незапамятных часоў людзі перацíралі збожжа на муку пры дапамозе двух камянёў. На працягу тысячагоддзяў мяняўся іх выгляд і спосаб размолу зерняў, што ў канцы давяло да ўзнікнення паставаў, якія сёння выкарыстоўваюцца ў старых млынах. Для раздраблення збожжа прымяняліся ступа і ручныя жорны, якія з часам сталі прыводзіцца ў рух сілай ветру, вады і хатняй жывёлы. Многія помнікі матэрыяльнай культуры прапалі ў час ваенных дзеянняў, многія несвядома знішчылі мы самі, заступаючы сучаснай тэхнікай старыя машыны і прылады, якія найчасцей выкідаліся на звалку, разбураліся.



*Колішні ветрак Яна Харуева (цяпер у скансэне ў Белавежы).*

У Орлі яшчэ адносна нядаўна, бо ў міжваенны перыяд і пазней, былі тры стрыжнёвыя (слупавыя) ветракі. Адзін быў уласнасцю арлянскага яўрэя Янкеля і малолі ў ім муку да 1939 года. Другі належаў Аляксандру Кубаеўскаму і працаваў ён яшчэ ў пасляваенны перыяд. Пазней разабралі яго і з атрыманага матэрыялу пабудавалі вышку-сушыльню для пажарных шлангаў. Найдаўжэй пратрымаўся вятрак Яна Харуева, які быў разабраны ў 70-х гадах і перанесены ў скансэн у Белавежы.

У міжваенны перыяд у Орлі працаваў яшчэ вадзяны млын на Арлянцы, уладальнікамі якога была сям'я Сярацкіх. Спачатку жылі яны ў млыне, але пасля пажару адбудавалі аддзельна млын і побач яго ў пэўнай адлегласці жылыя будынкі. Калі распаўсюдзілася прымяненне электратоку, вальцы сталі прыводзіцца ў рух пры дапамозе электрычнага рухавіка. Цяпер млын з'яўляецца ўласнасцю Гмінннай спулдзельні. Стары драўляны масток замяніў жалезабетонны мост, якому не страшны ўжо вясновыя крыгаходы і паводкі. Будовай новага моста кіраваў жыхар Пашкоўшчыны Уладзімір Сойка. Пры гэтым меліяратары выпрамілі рэчышча, паколькі вада млыну была ўжо непатрэбная, і перад мостам паставілі плаціну.



*Майстар Міхал Кубаеўскі з Орлі за працай — кастрычнік 1996 года.*

Развіццё мукамольнай прамысловасці прывяло да заняпаду дзейнасці малых млыноў, у якіх сяляне малолі збожжа на муку і вотруб'е. Захавалася іх ужо нямнога, усяго два ў Арлянскай гміне — у Градалях і самой Орлі. Гэты апошні ўжо паўвеку служыць сялянам і забяспечвае мукой мясцовую і некаторыя беластоцкія пякарні. Працуе ён на дзве змены.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# На Гайнаўшчыне гадуюць... рыбу

Будзе гэта нешта новае ў гайнаўскай акрузе — зараз тут прыбывае ўсё больш вытворцаў прэснаводнай рыбы. Так, так. Сяляне пачалі будаваць, аднаўляць і пераабсталёўваць рыбныя сажалкі.

Штуршок да гэтага дало Польскае рыбацкае таварыства, зацікаўленае развіццём рыбаводства ды пабудовай невялікіх вадасховішчаў (пачало яно дзейнічаць у красавіку 1991 года). Затым у канцы 1994 года група з 21 селяніна — уласнікаў ставаў — заснавала Таварыства вытворцаў прэснаводных рыб. Толькі на працягу аднаго года ў гмінах, што вакол Гайнаўкі, пабудавалі каля ста рыбаводных сажалак побач рэк, рачулак і іх прытокаў.

Цяпер таварыства гуртуе больш 130 уласнікаў ставаў, вытворцаў карпаў ды колькасць іх павялічваецца. Мае яно сваю сядзібу пры Гміннай управе ў Дубічах-Царкоўных. Зарэгістравана тут 370 сажалак. Уладальнікамі 348 з іх з'яўляюцца гаспадары-аднаасобнікі. Гадуюць яны перш-наперш карпаў і карасёў. Добрыя рэзультаты а затым прыбытак можа даць таксама гадоўля сомаў або вугроў. На пакупку малявак зарэгістраваныя вытворцы рыб, згодна з распараджэннем Міністэрства сельскай і харчовай гаспадаркі ад 21 ліпеня 1995 года (Dz. U. № 93, poz. 464), могуць атрымаць датацыю.

Найбольш рыбных ставаў маюць жыхары гмінаў: Дубіцкай — 130, Кляшчэлеўскай — 84, Нарваўскай і Чыжоўскай — па 49 ды Гайнаўскай — 26.

Усім зацікаўленым рыбаводствам раім наведаць або патэлефанаваць у: Rejonowy Zespół Doradztwa Rolniczego w Hajnówce, ul. Lipowa 20 (tel. 20-10) або ў: Stowarzyszenie Hodowców Ryb Słodkowodnych z siedzibą przy Urzędzie Gminy w Dubiczach Cerkiewnych. **(яц)**

# Быў такі баль

Традыцыяй ужо стала, што музычны калектыў Анджэя Жамойды штогод арганізуе навагодні (па старому стылю) баль у Беластоцкім чыгуначным цэнтры культуры. Зважыўшы на невялікі кошт уваходных білетаў (140 злотаў ад пары з шампанскім і закускамі), ужо на два месяцы раней былі яны распрададзены.

На праваслаўнага „Сільвестра" прыязджаюць у Беласток многія чарамшукі. У „Калеяжы" сустракаюцца на Гагатуху (навагодні вечар) старыя знаёмыя. У вясёлым настроі сяброўскай атмасферы гулялі маладыя. А калі настала поўнач, прагучалі тосты. Пасля завіталі калядннікі з сапраўднай гвяздай і праспявалі праваслаўныя калядкі.

Арганізатары мерапрыемства падрыхтавалі многа цікавых конкурсаў.

Першае месца ў конкурсе танца журы прысудзіла маладым з Беластоцкага мясакамбіната (з гэтага прадпрыемства і арганізатар), хаця прысутныя ў зале мелі іншыя меркаванні. У жараб'ёўцы галоўная ўзнагарода дасталася Ірэне Рошчанка з Чаромхі. Яна атрымала карту сталага кліента „Radio-taxi" і „Bicycle club", які прадстаўляе сабою аптовы склад веласіпедаў „Olympic". Апрача таго пераможца атрымала фірменны каляндар ПЗУ, каву і запрашэнне на такое ж мерапрыемства ў наступным годзе. Як бачым, і да нашых маладых з Чаромхі час ад часу ўсміхаецца шчасце. Каб толькі не апошні раз!

Да самага ранку гуляла моладзь у „Калеяжы". А калі прыйшоў час развітання, некаторыя ўдзельнікі балю заказвалі сабе ўваходныя білеты ў арганізатараў... на наступны праваслаўны „Сільвестар".

Тады да наступнай сустрэчы!

**Уладзімір Сідарук**

# Актыўным і ўлада дапаможа

Студзіводы — гэта, бадай, найбольш перыферыйная частка Бельска. Да цэнтра горада будзе адтуль да трох кіламетраў, якія штодзень 19 разоў праязджае гарадскі аўтобус (у нядзелю і святы — 9 разоў). Паабапал Студзіводскай вуліцы, якая спалучае гэтую раней падбельскую вёску з горадам, шпарка растуць новыя дамы. Ды і ў самых Студзіводах, якія яшчэ захоўваюць вонкавы вясковы выгляд большае хатаў, вядома, з усімі гарадскімі выгодамі.

Жыхароў, аднак, турбуе, што побач Студзіводскай вуліцы няма ходніка. Яшчэ ў камуністычныя часы яны самі нівеліравалі зямлю пад яго. Цяпер, калі ўсё ўзрастае вулічны рух, — а тудою вядзе яшчэ і дарога на Райкі, Казлы і Дубяжын, — калі большае машын, звярнуліся яны на сходзе да віцэ-бурмістра Яўгена Беразоўца, каб магістрат дапамог ажыццявіць гэтую патрэбную інвестыцыю. На актыўнасць жыхароў Студзівод у такіх выпадках можна разлічваць.

Тры гады таму з'явілася ініцыятыўная група ў справе пабудовы водаправода. Ежы Лех Кнышэўскі, Мікалай Якубюк і Яўген Якубюк сабралі подпісы жыхароў і дамовіліся наконт варункаў пракладкі водаправоднай сеткі.

— У нас даўно ўжо з вадою было цяжкавата, — расказвае Мікалай Якубюк, да пенсіі настаўнік і намеснік дырэктара „тройкі", — але тады якраз былі сухія леты і дэфіцыт вады адчуваўся асабліва востра. Трэба падкрэсліць, што гарадская ўлада падышла са зразуменнем да нашых праблем, у выніку, мы абавязаліся аплаціць кошт работы, а горад — матэрыял.

Водапровод рабіла Гарадское прадпрыемства камунальнай гаспадаркі. Кожная студзіводская сям'я за падключэнне вады да дома заплаціла каля чатырох мільёнаў. Грошы збіраў і наглядаў за працай дэмакратычна абраны грамадскі камітэт пад старшынствам Софіі Яцкевіч. Яе намеснікам быў Мікалай Якубюк, а скарбнікам — Ежы Лех Кнышэўскі. Агулам грамадскасць Студзівод уклала ў водаправод каля 500 мільёнаў старых злотаў.

Іншы прыклад актыўнасці студзіводцаў — святліца. Яны самі разабралі дом у Бельску, перавезлі яго да сябе і паставілі. Бяда толькі, што святліца, пакуль, не выкарыстоўваецца. Пару разоў моладзь ладзіла там патанцоўкі і гэта ўсё. Адзіны абсталюнак святліцы — дванаццаць крэсел, ахвяраваных у мінулым годзе бурмістрам. Зімою дык наогул не можна сунуць туды носа, бо будынак без ацяплення.

— Кажуць, бурмістр абяцаў у гэтым годзе грошы на абсталяванне нашай святліцы, — гаворыць Мікалай Якубюк, — каб яшчэ знайшоўся адпаведны чалавек, які падбаў бы пра аб'ект. Але ў сённяшні час, у кожнага больш актыўнага сваіх спраў хапае. Той адкрыў краму, той майстэрню, яшчэ іншы бярэ другую працу, каб падзарабіць. Не да святліцы ім.

Спадар Якубюк, аднак, лічыць, што калі Гарадская ўправа надалей будзе прыхільна ставіцца да патрэб Студзівод, то не толькі паспяхова вырашыцца лёс ходніка і святліцы, але і многа больш добрага будзе зроблена. У чарзе чакаюць пясчаныя бакавыя вуліцы. Можна падумаць таксама, каб побач, на Арлянцы зрабіць пляж і месца для купання. Ідэй хапае. **(ак)**

# Гэта ўжо свінства!

На чыгуначным шляху Чаромха—Бельск-Падляшскі знаходзіцца пасажырскі прыпынак Сухавольцы. Пабудаваны ён быў дзякуючы грамадскай ініцыятыве жыхароў Сухавольцаў і навакольных вёсак яшчэ пры камуне. Прыпынкам апекаваўся начальнік станцыі ў Кляшчэлях.

Калі прыпынак здавалі ў карыстанне, стаяў тут прыгожы мураваны будынак пачакальні з білетнай касай.

Разам з заняпадам камуны і пастаяннай рэарганізацыяй на чыгунцы, многае адмянілася на чыгуначнай лініі Чаромха—Беласток. Пазамыкаліся білетныя касы ў Лeўках і Сухавольцах. Пачакальні засталіся без нагляду.

Аб знішчэнні будынка ў Лeўках я раней пісаў у „Ніве". Зараз тое ж самае здарылася і ў Сухавольцах. Павырываныя вокны, паламаныя дзверы, разабраная печ. Гэта ўжо свінства, даражэнькія! Каму спатрэбілася разбураная печ? Ці ж гэтаму вандалу не хапіла ўжо грошай на кафлі, ці зрабіў гэта проста для шкоды?

Калі я праязджаў вечарам праз Сухавольцы, цемра царыла на пероне, а зруйнаваны будынак пачакальні бытцам прывід палохаў праязджаючых пасажыраў. Вось да чаго прыводзіць „новы парадак" і рэструктурызацыя з рынкавай эканомікай на чыгунцы.

**Уладзімір Сідарук**

# Нам трэба спяшацца

[1 ☞ працяг]

цовыя людзі падказалі, што там спачываюць вазакі з ваколіц Гайнаўкі і Бельска.

— Наш Алёшка такі спакойны, добры быў, — пачынае плакаць жанчына. — Выконваў загады, бо людзям верыў. І такая смерць яго сустрэла.

**Захаваць памяць,**

эксгумаваць астанкі і перавезці іх з Кліх у Бельск-Падляшскі — такую мэту ставяць сабе аб'яднаныя ў грамадскім камітэце сем'і памардаваных ахвяр. Пра поспехі камітэта гаварыць яшчэ рана. Гэтаму спрыяе бяссілле і страх. Нават найбольш заангажаваныя члены камітэта выступаюць ананімна. Як агню баяцца мікрафонаў, відэакамеры, здымкаў.

— Бо яшчэ прыйдуць і заб'юць, падпаляць, — аргументуюць яны.

— Па Бельску ходзяць яшчэ тыя бандыты, — дадаюць, — ананімныя лісты з пагрозамі нам дасылаюць.

Усё ж многа змянілася ў свядомасці членаў камітэта.

Два гады таму людзі яшчэ больш баяліся. Паказваюць мне спісак з подпісамі сем'яў ахвяр. Уражвае гэты акт смеласці. Пераважае там почырк малапісьменных людзей. Сярод заангажаваных членаў не відаць маладых, адукаваных людзей.

— Бывае, што і не вераць нашы ўнукі, калі ім пра гэтае гора расказваеш, — жаліцца адна бабуля.

Усё ж такі знаходзяцца адважныя людзі. Як правіла, выступаюць яны ў групе. Жыхары Чыжоў — Сцяпан Якімюк, Міхал Тарасюк, Люба Гаўрылюк, Люба Конах выступілі перад камерай тэлебачання. Ад іх даведаліся журналісты (традыцыйна прысутнічалі толькі беларускія рэдакцыі) пра меркаванні наконт маруднай справы эксгумацыі і перапахавання ў Бельск.

— Гэта ж сорам, каб дзяржава нам не дапамагла. Шкада ім грошай збіць скрынку і перавезці косці.

— Прадалі б нашы коні, што ад фурманоў пазабіралі. Былі б грошы на перапахаванне. Коні ў палітыку ж не гулялі.

— Як пра Катынь, то гавораць, а нас і слухаць не хочуць.

Падобным выказванням не было канца. Ніхто не ўспомніў, што самым непрыхільнікам здзяйснення мэты з'яўляецца ананімнасць, недахоп настойлівасці, унутраныя канфлікты паміж членамі камітэта.

— Нам трэба спяшацца. Перавезці косці, помнік паставіць, — плачуць бабулі. — Бо памрэм і памяць па ўсім загіне.

**Ганна Кандрацюк**



*Крыж з новай таблічай у пухалаўскім лесе.*

# Oświadczenie

**Społecznego Komitetu d/s Ekshumacji i Pochówku Pomordowanych Furmanów przez Oddział Zbrojnego Podziemia w dniu 31 stycznia 1946 r. w lesie koło wsi Puchały Stare, gm. Brańsk.**

Rolnicy ok. 40. furmanek z zachodnich miejscowości byłego powiatu Hajnówka w dniu 28 stycznia 1946 r. zostali wyznaczeni przez ówczesne władze gminne do przewozu drzewa z lasu do szkół. Kiedy stawili się w wyznaczonym miejscu zbiórki w miejscowości ŁOZICE na zachodnim skraju Puszczy Białowieskiej, zostali zmuszeni do przewozu Oddziału Zbrojnego Podziemia w ilości około 150 osób. W dniu 28/29 stycznia 1946 r. Oddział opanował m. Hajnówkę, a 29 stycznia spalił dwie wsie: Zaleszany (gm. Kleszczele), zabijając i paląc żywcem 14 osób, przeważnie dzieci i osoby starsze wiekiem, i wieś Wólka Wygonowska — zabijając 2 osoby. W dniu 30 stycznia 1946 r. z miejscowości Krasna Wieś (gm. Boćki) ten sam oddział pobrał 14 wozów konnych z furmanami. Furmani wyznania rzymskokatolickiego wrócili do domów, prawosławni zostali pomordowani w lesie — 300 metrów na południowy-zachód od wsi Puchały Stare (gm. Brańsk), gdzie kilka ciał znajduje się tam nadal.

Zbrodnia oraz jej miejsce były okryte tajemnicą. Rodziny pomordowanych furmanów dopiero latem 1995 roku dowiedziały się o miejscu mordu i spoczynku ich bliskich oraz z czyjego rozkazu 29 furmanów wyznania prawosławnego zostało rozstrzelanych.

Tego haniebnego zbiorowego morderstwa dokonał zbrojny oddział podziemia występujący pod nazwą „Oddział Pogotowia Akcji Specjalnej Narodowego Zjednoczenia Wojskowego" lub „III-cia Wileńska Brygada NZW" dowodzona przez kpt. Romualda Rajsa ps. „BURY", z-ca d-cy oddziału ppor. Chmielowski Kazimierz — ps. „REKIN".

2.02.1946 r. oddział „Burego" spalił wieś Zanie (gm. Brańsk) — 24 zabitych, 8 rannych i wieś Szpaki (gm. Wyszki) — 9 zabitych, 3 rannych i zgwałcone 2 dziewczyny. Łącznie w ciągu pięciu dni 80 osób było zabitych a 11 rannych. Były to osoby wyznania prawosławnego. Smutny to bilans.

Społeczny Komitet, który został wybrany przez członków rodzin pomordowanych furmanów, w dniu 26 czerwca 1995 roku zwrócił się z pisemnym wnioskiem do Okręgowej Komisji Badania Zbrodni na Narodzie Polskim w Białymstoku o uzyskanie zezwolenia na ekshumację i pochówek w Bielsku Podlaskim. Ekshumacja miała nastąpić pod koniec sierpnia 1996 roku, tak zapewniał pan prokurator Waldemar Monkiewicz z OKBZNNP społeczny komitet na początku sierpnia 1996 roku. Ale nie nastąpiła. Pan prokurator Monkiewicz odsyłał już Społeczny Komitet do Prokuratora Rejonowego w Bielsku Podlaskim, radnych, swoich posłów, Miejskiego Urzędu Gospodarki Komunalnej w Białymstoku, a nawet do premiera Cimoszewicza, który miał być w dniu 6.11.1996 r. w Białymstoku. Czynił to, aby zbyć Społeczny Komitet. Śledztwo na okoliczność zbiorowego mordu 29 furmanów pomordowanych 31.01.1946 r. zakończył w końcu sierpnia 1996 r., ale żadnego postanowienia w tej sprawie nie wydał.

**Społeczny Komitet d/s Ekshumacji i członkowie rodzin osób pomordowanych w dniach 29.01—2.02.1946 roku pytają:**

1. Pana Prokuratora Waldemara Monkiewicza z OKBZNNP w Białymstoku: kiedy i jakie wyda postanowienie w powyższej sprawie?

2. Panów Posłów Sejmu RP i pana ministra d/s Kombatantów prof. Adama Dobrońskiego: jak to jest w państwie prawa, że podkomendni „Burego" z 1946 roku są członkami Związku Kombatanckiego i otrzymują dodatki kombatanckie, wysokie odszkodowania, a pieniędzy na ekshumację 29 furmanów brakuje, nie mówiąc już o materialnych odszkodowaniach i pomordowanych 80 osobach cywilnych przez w/w oddział w ciągu pięciu dni?

Oczekujemy odpowiedzi.

Bielsk Podlaski, 26.01.1997 rok

# Мы новый мир построим

22 студзеня ў памяшканнях Фонду Баторыя ў Варшаве адбылася сустрэча прадстаўнікоў польскіх арганізацый і фондаў, якія вядуць дзейнасць таксама на тэрыторыі Беларусі. Мэтай і галоўнай ідэяй канферэнцыі арганізатары ставілі выпрацоўку крытэрыяў дапамогі беларускім непалітычным і няўрадавым арганізацыям, якія дзейнічаюць у напрамку стварэння дэмакратычнага грамадства ў Беларусі. Асноўнай праблемай — як сказаў адзін з удзельнікаў сустрэчы — ёсць акрэсленне, каму ў Беларусі з ліку звыш паўтары тысячы арганізацый, заяўляючых аб імкненні стварыць дэмакратычныя структуры ў дзяржаве, трэба дапамагчы. Некаторыя суполкі існуюць толькі на паперы і апрача шэфа з пячаткай і яго найбліжэйшай сям'і нікога больш не прадстаўляюць, а сэнс іх існавання абмяжоўваецца да пошукаў грошай на „дзейнасць", якой у сапраўднасці не было, няма і не будзе. Ёсць таксама ў Беларусі шырокавядомыя ў свеце, але не надта ў сваёй краіне, прафсаюзныя структуры, якіх лідэры патрапілі зрабіць сабе рэкламу за мяжою, але якім на працягу некалькіх гадоў не ўдаецца наладзіць сапраўднай прафсаюзнай дзейнасці. Побач вядомых фондаў, якія ад даўжэйшага часу карыстаюцца заходняй падтрымкай, з'явіліся таксама новыя, якія ўзначальваюць вядомыя былыя дзяржаўныя ці палітычныя дзеячы. У найбольшым скарачэнні можна сказаць наступнае: ёсць там шмат юрыдычных аб'ектаў, якія дэкларуюць волю працы дзеля стварэння дэмакратычнага ладу ў краіне, толькі не надта вядома, хто з такой колькасці мае намер гэтым займацца ў рэчаіснасці, а хто толькі намагаецца атрымаць сродкі на штаты, дэлегацыі і іншыя кошты бліжэй неакрэсленай дзейнасці шэфаў.

Аўтарытарная сістэма кіравання ў Беларусі спрыяе таму, што фінансавыя сродкі, якія беларускія дэмакратычныя арганізацыі атрымліваюць ад замежных фондаў, трапляюць у польскія банкі. Большасць беларускіх юрыдычных суб'ектаў карыстанне паслугамі ўласных банкаў успрымае як вялікую рызыку па той прычыне, што ніхто не ведае, якія вырашэнні можа прыняць Лукашэнка. Гэтая атмасфера няўпэўненасці спрыяе таксама і таму, што штораз часцей грошы на дапамогу беларускім дэмакратычным структурам перацякаюць цераз польскія фільтры. З ходу дыскусіі вынікала, што канчаецца фінансаванне замежнымі ўстановамі і фондамі ўсіх ініцыятыў, якія спрыяюць развіццю дэмакратычных структур у Польшчы. Узнікае тады пытанне будучыні адпаведных устаноў, якія апошнімі гадамі атрымлівалі немалыя сродкі на адукацыю польскага грамадства і перакананне яго да ідэі дэмакратыі. Лідэры варшаўскіх фондаў прыдумалі тады ўключыць у працэс дэмакратызацыі і Беларусь, што дае ім шанц прадоўжыць існаванне сваіх устаноў. Зразумела, ніхто гэтага не сказаў адкрытым тэкстам, а некаторыя ўдзельнікі сустрэчы, „заклапочаныя працэсам дэмакратызацыі ў Беларусі", часта нават паўтаралі: мы павінны ўзяць на сябе ролю жырантаў для беларускіх калег. Не надта толькі вядома, у чым заключаецца тут рызыка, якая пагражае кожнаму жыранту.

Большасць варшаўскіх дэмакратаў хацелі б змагацца за дэмакратыю ў Беларусі не пакідаючы сваіх кабінетаў. Плануюць запрашаць у Польшчу беларускіх журналістаў, людзей навукі, грамадскіх дзеячаў і тут вучыць іх дэмакратыі. На практыцы бывае найчасцей так, што ад розных беларускіх арганізацый прыязджаюць тыя самыя людзі і чарговы раз слухаюць нудных імправізаваных дакладаў усялякіх тутэйшых аўтарытэтаў, якія ўсім гавораць заўсёды тое самае. Праводзіць такую дзейнасць у Беларусі перашкаджае палякам, здаецца, не так рэжым Лукашэнкі, як намнога горшыя сацыяльныя ўмовы ў Менску, не ўспамінаючы ўжо пра абласныя гарады.

Так у сапраўднасці нікога ні ў Польшчы, ні ў Еўропе лёс беларускай дэмакратыі не цікавіць. Некалькі тутэйшых дзеячаў, якія арганізуюць дапамогу беларускім грамадскім установам, праўдападобна скрыта нават удзячныя Лукашэнку за ягонае аўтарытарнае кіраванне, таму што стварае ён сэнс працягвання іх „місіі". А прэзідэнт Беларусі разам са сваімі вертыкальшчыкамі можа спакойна праводзіць чарговыя антыдэмакратычныя рэферэндумы. Беларускія і еўрапейскія дэмакраты гарантуюць, што сваёй дзейнасцю ў нічым яму не перашкодзяць.

**Яўген Міранович**

# Утрымаць фестываль

[1 ☞ працяг]

ні. Агляды калядных калектываў праводзяцца там з 1979 г.

Калі кранаць справў больш надзённых, Гайнаўскі дом культуры пачаў новы год спробай змены структуры. Ідзем у мастацкія калектывы, — сказаў дырэктар Бушко, — калі збярэцца група для мастацкай дзейнасці, мы запэўніваем ім месца і матэрыяльную падтрымку. Штотыдзень праводзяць рэпетыцыі 7 танцавальных калектываў, 7 вакальных, 5 тэатральных, 15 рок-гуртоў ды 2 гурткі жывапісу. Дзейнічае тут таксама эстрадная група, клуб сеньёра і гурток любіцеляў Лацінскай Амерыкі. Праводзяцца таксама курсы ігры на гітары, піяніна і сінтэзатары ды курсы англійскай мовы. Асобнай агаворкі вымагаюць курсы бальнага танца, на якіх займаюцца аж 600 вучняў Пачатковай школы н-р 6 у 18 групах. Дырэктар Бушко наладзіў у гэтай справе супрацоўніцтва з дырэктарам школы сп. Ірэнай Кулачэўскай дзеля таго, каб гайнаўскія дзеці мелі найменш прычын для фрустрацыі. Чалавек, які баіцца паркету, гэта ў пэўным сэнсе калека, — лічыць спадар Бушко.

Апрача гэтых, можна сказаць пастаянных, мерапрыемстваў, у ГДК адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, выставы, спектаклі, канцэрты, конкурсы.

Ну і, пакуль ціха і карпатліва, ідзе падрыхтоўка да XVI Фестывалю царкоўнай музыкі. Цяпер яна на этапе рэкрутацыі ўдзельнікаў і пошукаў грошай. Галоўнае ж — каб фестываль утрымаць.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Юбілей Беларускай рэдакцыі Польскага Радыё

Беларуская рэдакцыя Польскага радыё адсвяткавала свой першы юбілей — 5 гадоў прысутнасці ў эфіры. З гэтай нагоды ў Варшаве адбылася канферэнцыя „Сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі. Беларусь у сродках масавай інфармацыі".

Як прыпомніў ва ўступным слове прэзідэнт праўлення Польскага радыё Кшыштаф Міхальскі, трэба было палітычнага пералому, каб дайшло да беларускіх перадач. Да таго часу Польскае радыё вяшчала на шматлікіх мовах, толькі не на мовах суседзяў. Як першая ўзнікла літоўская, за ёю ўкраінская і, нарэшце, беларуская перадачы.

Кіраўнік Рэдакцыі Ніна Баршчэўская прадставіла плён пяці гадоў дзейнасці. Спачатку рэдакцыя займалася перш за ўсё польска-беларускімі сувязямі і становішчам меншасцей. З часам абсяг зацікаўлення рэдакцыі стаў пашырацца. Разам з праграмай Беларускага радыё „Беларуская маладзёжная" праведзены быў радыёмост Варшава—Мінск з удзелам Станіслава Шушкевіча і Леха Валэнсы. Пасля ліквідацыі „Беларускай маладзёжнай" наладжана было супрацоўніцтва з Радыё 101,2. Гэтае Радыё рэтранслявала беларускія перадачы ПР паўгадзіны ў дзень. На пачатку мінулага года ў Радыё 101,2 праведзены быў Польскі дзень. На жаль, беларускія ўлады спынілі дзейнасць Радыё 101,2.

Беларуская рэдакцыя ПР надалей супрацоўнічае з журналістамі Радыё 101,2. Стараецца таксама інфармаваць аб усіх падзеях у Беларусі і аб беларускай дыяспары, у чым дапамагае супрацоўніцтва з Радыё „Свабода". Сп. Баршчэўская ўсё-такі лічыць парадаксальнай сітуацыю, у якой інфармацыя падзеная журналістамі з Беларусі вяртаецца назад у Беларусь праз Варшаву.

Беларуская рэдакцыя мае шырокі круг слухачоў у Беларусі. Яны пішуць тысячы лістоў, прапануюць тэмы перадач, прымаюць удзел у конкурсах і дыскусіях. У Віцебску існуе гуртох сяброў Рэдакцыі. У Рэдакцыі свая публіка. Гэта ў асноўным людзі ва ўзросце 20—40 гадоў, з вышэйшай адукацыяй.

У дыскусіі пра становішча сродкаў масавай інфармацыі расказалі Жана Літвіна, старшыня Незалежнай асацыяцыі журналістаў Беларусі, кіраўнік Радыё 101,2 і Ігар Гермянчук, галоўны рэдактар газеты „Свабода".

Сп. Літвіна заўважыла, што прадстаўнікі ўсіх сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі могуць гаварыць людзям: „Вам сёння не раскажуць, вы сёння не пачуеце". Ідэалагічная апрацоўка ўведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. У Беларусі няма ніводнай недзяржаўнай друкарні ні штодзёнкі. Зачыняюцца чарговыя часопісы, у тым ліку і папулярны гістарычны часопіс „Спадчына". Наклад усіх недзяржаўных выданняў меншы за наклад штодзёнкі „Савецкая Беларусь".

Ігар Гермянчук сказаў, што цяпер выдаўцам магчыма цяжэй як пры камуністах, бо тыя, як ужо далі на нешта дазвол, дык стрымоўвалі слова. Роля сродкаў масавай інфармацыі больш важная як паўгода таму. Няма парламента, а дзейнасць дэмакратычных партый малавядомая людзям. Выдаўцы „Свабоды" нічога не хочуць ад улад апрача аднаго: каб толькі яны прытрымоўваліся закона. Паводле Ігара Гермянчука, прэзідэнт толькі для Захаду прытвараецца пакуль што ліберамам. Неўзабаве можна спадзявацца прыняцця ім вострых мераў супраць партый і прэсы. Як слушна падкрэсліў спадар Гермянчук, ніхто не падарує беларусам свабоды. Трэба за яе змагацца, але трэба таксама і дапамогі з Польшчы ды іншых краін.

Гаворачы пра вобраз Беларусі ў польскіх сродках масавай інфармацыі, Ян Скужынскі з „Rzeczpospolitej" пачаў з таго, што за некалькі месяцаў Беларусь зрабіла кар'еру, дзякуючы прэзідэнту Лукашэнку. Цікаўнасць да Беларусі большая, чымся да Славаччыны, хаця славакі блізкія палякам. Усё ж такі ў Браціславе не было такіх здарэнняў як у Мінску. Вясеннія дэманстрацыі, на якіх можна было пабачыць сцяг „Салідарнасці", выклікалі сімпатыю. Сваё зрабіла і высяленне Мар'яна Кшаклеўскага, якое мацавала ўласны вобраз палякаў як змагароў за „нашу і вашу вольнасць". Па гэтых самых прычынах папулярная і асоба Зянона Пазьняка, які ўпісваецца ў схему рамантычнага інтэлігента-змагара за незалежнасць.

Сярод недахопаў сп. Скужынскі назваў тое, што палітыка засціць жыццё, культуру, традыцыі, рэлігію, а таксама праблемы палякаў у Беларусі. Вельмі схематычны вобраз прэзідэнта Лукашэнкі. Узнікае праблема, што сімпатыя да змагання за незалежнасць можа адбіцца на аб'ектыўнасці.

Яўген Мірановіч з „Нівы" прадставіў не толькі вобраз Беларусі ў польскіх сродках масавай інфармацыі, але і ўплыў таго ж вобраза на беларускую меншасць. Паводле яго, у польскіх сродках масавай інфармацыі адчуваліся, і часам надалей адчуваюцца тон грэбавання і незразуменне падзей. Без аніякага эканамічнага аналізу даказваецца, што Беларусь няздольная на незалежнасць. Апошнім часам ніхто ні словам не заікнуўся аб тым, што парламент выбраны быў недэмакратычна і адобрыў вынікі першага рэферэндуму і аб'яднання з Расіяй.

Паводле Я. Мірановіча, беларусы ў Польшчы адчуваюць перш за ўсё прыналежнасць да праваслаўнай, візантыйскай цывілізацыі. Такія беларускія лідэры як С. Шушкевіч і З. Пазьняк успрымаюцца імі як палякі-каталікі, а польскія сродкі масавай інфармацыі пішуць дрэнна пра прэзідэнта Лукашэнку, бо ён расстроіў польскія планы. Польскія сродкі масавай інфармацыі могуць гаварыць самую праўдзівую праўду, але сярэдні беларус, які не ведае сваіх традыцый, і так ім не паверыць. Без школ і ўстаноў, дзякуючы якім беларус спазнаў бы свае нацыянальныя традыцыі, ніякага зруху тут не будзе.

Выступленне галоўнага рэдактара „Нівы" выклікала адвадочнае зацікаўленне, а можа нават і ашарашыла некаторых, паколькі рашуча адрознівалася яно ад іншых выказванняў. На жаль, ніхто якраз гэтых пытанняў не падымаў. У дыскусіі выказаліся шмат хто, дык адзначу толькі больш арыгінальныя меркаванні.

Вострa выступіў літаратар Чэслаў Сэнюх, які раскрытыкаваў прысутных за тое, што дыскутуюць пра свабоду, падчас як нейкія былыя члены Палітбюро цісну́ць у абдымках Лукашэнку. Ч. Сэнюх заступіўся таксама за зняволенага беларускага паэта Славаміра Адамовіча.

Цікава выказваўся дырэктар беларускай секцыі Радыё „Свабода" Вячаслаў Станкевіч. Расказаў ён пра спробы рэтрансляцыі перадач „Свабоды" ў Беларусі. Беларускія ўлады пажадалі платы вышэйшай за гадавы бюджэт секцыі, ды ставілі варунак, каб Радыё „Свабода" гаварыла толькі аб тым, што адбываецца ў свеце. Усё гэта нешта дзіўна напамінае доўгія перагаворы „Нівы" з беларускімі ўладамі адносна перадрукоўвання нашай газеты ў Беларусі.

Уразіла арыгінальнасцю выступленне праф. Аляксандра Баршчэўскага, які дакараў З. Пазьняка. Паводле прафесара, прыхільнікі Пазьняка насілі па Мінску малыя шыбеніцы з кукламі, якія мелі на грудзях надпіс „камуніст", што напамінае час нямецкай акупацыі. Да таго вырывалі ветэранам кветкі, якія тыя хацелі пакласці пад помнікам Леніну. А. Баршчэўскі адвадочна глядзеў вядомы прапагандысцкі фільм Юрыя Азаронка „Нянавісць".

Як відаць, успрыманне вобраза Беларусі ў польскіх сродках масавай інфармацыі неадназначнае. Адназначнае толькі становішча недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі, якім пагражае знішчажэнне. У такой сітуацыі тым большая адказнасць накладаецца на сродкі масавай інфармацыі па-за межамі Беларусі. Як слушна заўважыў В. Станкевіч, не павінны яны баяцца канкурэнцыі, бо чым болей інфармацыі пападзе ў Беларусь, тым лепей.

А Беларуская рэдакцыя Польскага радыё безумоўна здольная на канкурэнцыю. Застаецца пажадаць ёй наступных юбілеяў плённай працы.

**Алег Латышонак**

**III Агульнапольскі форум „Культурны рэгіяналізм" у Беластоку**

# „Тутэйшых" як і не было

Вельмі нам было міла, што Краёвая рада рэгіянальных таварыстваў культуры вырашыла правесці ў днях 23—25 студзеня г.г. свой трэці форум **у Беластоку — рэгіёне, як не круці, шматнацыянальным**. Віцэ-дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Барбара Пахольская так і сказала: „Ацанілі нашу дзейнасць у справе рэгіянальных таварыстваў культуры!"

На Форум ішла я з надзеяй, што пачую шмат інфармацый пра беларусаў на Беласточчыне, пра іх вялікую ролю ў культурным краявідзе гэтага рэгіёна. Дастаткова ж толькі выехаць на нейкі агляд: калядніказ, скажам, ці сакральных песень — і мы бачым, што ўсё там адбываецца *pół na pół*. А што ўжо гаварыць пра такія мерапрыемствы, як штогадовыя фестывалі беларускай песні, раённыя фэстыны БГКТ, ці Свята беларускай культуры ў Беластоку. Ёсць жа нашы мастацкія калектывы, якія існуюць больш сарака гадоў і можна ўжо пра іх спяваць песні. Урэшце ёсць беларускія ліцэі, ёсць „Ніва" і „Часопіс", і можна было спадзявацца, што **менавіта гэту спецыфіку рэгіёна мела на ўвазе Краёвая рада рэгіянальных таварыстваў культуры**, кіруючы сваю ўвагу на Беласток.

Не было на форуме аднак жа даклада ніводнага навукоўца, які бў бы прысвечаны беларускай праблематыцы на Беласточчыне. Усе даклады былі прывезены з іншых рэгіёнаў Польшчы, з Варшавы.

Праўда, даклады навукоўцаў з Ніжняй і Верхняй Сілезіі паказалі сітуацыю, у многім падобную на сітуацыю беларусаў Беласточчыны. Вось хаця б пытанне: які патрыятызм? Ці чалавек пагранічча з'яўляецца патрыётам *фатэрлянда*, сваёй айчыны, ці найважнейшай ён лічыць прыналежнасць да *гаймата*, радзімы, месца, дзе нарадзіўся, а мо ён патрыёт новай Айчыны — Польшчы? (даклад д-ра габ. Стэфана Бяднарка з Вроцлаўскага універсітэта: „Культурны рэгіяналізм і культурная палітыка").

Як жа ідэнтычна момантамі выглядае сітуацыя польскіх беларусаў і немцаў з Сілезіі! У сваім дакладзе „Культурны рэгіяналізм на этнічных пагранічах" праф. Марэк Шчапанскі са Шлёнскага універсітэта сцвердзіў: той факт, што многія пагранічны на працягу аднаго стагоддзя некалькі разоў мянялі дзяржаўную прыналежнасць, выклікаў існаванне „пагранічча" ў самім чалавеку. Людзі пагранічча, як правіла, гэта людзі дзвюх-трох культур, на прыкладзе жывога матэрыялу сцвердзіў праф. М. Шчапанскі. Некаторыя жыхары Верхняга Шлёнска, якія тут асроддзю здаваліся занадта нямецкімі, выязджалі ў Германію, з якой хутка вярталіся, бо там яны былі занадта польскія.

Адкуль мы гэта ведаем?! І мы тут — у вачах некаторых — пасланцы зненавіджанага Усходу, астаткі цара. Ну, а там, у тым *фатэрляндзе*, мы — палякі, калі не — у лепшым выпадку — беларускія буржуазныя нацыяналісты (тут маю на думцы адносіны да „Нівы"). Таму не дзіўна, што нашым людзям найбольш хочацца застацца **„тутэйшымі"**, і нават маладыя журналісты „Нівы" ахвотна размаўляюць са сваімі дзецьмі менавіта на сваёй, мясцовай гаворцы, каб ведалі, адкуль яны.

І гэта добра, бо ўсё ж кожны патрыятызм пачынаецца ад сваёй „малой айчыны" і ў дбанні пра яе менавіта праяўляецца сапраўдная еўрапейскасць.

Вяртаючыся да лейтматыву маіх разважанняў, хачу яшчэ адзначыць, што толькі ў адным дакладзе (праф. Ежы Дамраша з Вышэйшай педагагічна-сельскагаспадарчай школы ў Седльцах), у пару сказах даслоўна, было ўпамянута, што на Беласточчыне пражываюць беларусы, але ўсяго ў тым сэнсе, што беларускі народ захаваў сваю тоеснасць толькі ў Польшчы; хто трымаў з Расіяй, сказаў дакладчык, сваёй мовы ўжо амаль не мае.

Шкада ўсё ж, што пра гэту „тоеснасць" ні слова не было на гэтым спатканні. Не было таксама нічога сказана, калі на два дні раней у ВААКу сустрэліся прадстаўнікі рэгіянальных таварыстваў культуры і выбіраліся дэлегаты на III форум. Ні ў якіх матэрыялах не ўпаміналася там, што на Беласточчыне існуюць беларусы. Мо адзінай праўвай сцверджання гэтага факта быў выбар старшыні БГКТ Яна Сычэўскага дэлегатам на гэты форум.

А гасцям, што паз'язджаліся з усіх канцоў Польшчы, наогул тут спадабалася. Нарака́лі толькі, што апрануліся, быццам бы ехалі ў Сібір, а тут сонца свеціць, снегу мала, цёпла. Гаспадары пра іх задбалі. Паказалі, што мелі найлепшае: рэпетыцыю калектыву „Курпі зялёныя", палацык у Харошчы, а таксама спявачы калектыў „Клепачанкі" з Клепачоў, што пад Беластокам.

А „тутэйшых" як і не было...

**Ада Чачуга**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Галава каня

*(беларуская народная казка)*

Жылі дзед і баба. І было ў іх дзве дачкі. Адна дачка бабіна — Галя, другая дзедава — Наталля. Баба дзедавай дачкі не любіла.

Аднойчы кажа баба:

— Вязі сваю дачку ў лес. Ды толькі каб у хаце яе не было. Завязі яе кудынебудзь і кінь!

Шкада было дзеду Наталлі, працавітай і мудрай дачушкі. Але баба так насела, што не было выхаду.

Заплакаў дзед, сеў на воз і павёз дачку ў лес, дзе хатка старая стаяла. Калісьці ў гэтай хатцы жыў стары дзядок. Ён вельмі многа дабра рабіў людзям.

— Ну, Натачка, — сказаў дзед, — я пайду сячы дровы, а ты будзь у хатцы. Выйшаў дзед з хаткі, прывязаў да сцяны венік. Вецер вее, венік махаецца і стукае па дошках. А дзедава дачка думае, што бацька дровы сячэ. Пад вечар Наталля выйшла дзеда шукаць. Крычала, клікала, ніхто не адгукаецца. Выйшла ў лес, на двары завея, мароз і ноч за плячыма. Вярнулася яна ў хатку і стала плакаць. У гэты час нехта ў дзверы пастукаў. Выйшла Наталля, адчыніла дзверы і бачыць каля парога галаву каня.

— Перасадзі мяне, дзяўчынка, цераз парог, — кажа галава каня.

Перасадзіла Наталля галаву каня, а тая зноў кажа:

— Пасадзі мяне на лаву.

Зноў дачка выканала просьбу галавы. Тады галава зноў кажа:

— Накармі і напаі мяне.

Наталля напаіла і накарміла галаву. Галава зноў:

— Палажы мяне спаць.

Толькі дзяўчынка хацела палажыць галаву, а яна і кажа:

— Палажы рад паленаў, рад каменняў, ступу пад галаву, бараной накрый.

Зрабіла ўсё гэта Наталька, села ля акна і стала плакаць. Так і прасядзела ўсю ноч. Раніцай прачнулася галава, пытае ў дзяўчынкі:

— Чаго ты ўсю ноч праплакала?

Наталля расказала галаве пра сваё гора.

— Мяне завёз бацька ў лес, таму што мачыха не любіць мяне. У яе свая дачка. Яна нічога не робіць, толькі здзекуецца з мачыхай нада мною.

— Ну, нічога! — гаворыць галава. — Як-небудзь я дапамагу табе. Улезь мне ў левае вуха, вылезь з правага.

Выйшла з правага вуха Наталька і ўбачыла — у хатцы стала светла, быццам сонца сюды завітала. Глянула дзеўка ў люстра і бачыць, што вельмі прыгожая яна стала. На ёй сярэбраная сукенка, на галаве залатая карона. А галава кажа:

— Ящчэ куфар для цябе.

Як адчыніла Наталля куфар, дык і вачэй не можа адвесці. У куфры сукенкі, ручнікі, чаравічкі, кажухі.

— Цяпер дадому паедзеш, — сказала галава.

У гэты час уехалі да хаткі сярэбраныя сані з белымі коньмі. Збруя на іх залатая, залатыя званочкі. Падзякавала дзяўчына галаве і паехала дадому.

Дзед рады, што дачушка вярнулася. А баба ад злосці месца сабе не знаходзіць.

— Вязі цяпер і маю ў лес. Хай і яе так адзенуць.

Прывёз дзед бабіну дачку ў тую хатку. І зноў прывязаў ён да сцяны венік, вецер вее, венік па дошчы стукае, а Галя думае, што дзед дровы сячэ. Вечарам нехта пастукаў у дзверы. Адчыніла бабіна дачка дзверы і бачыць, галава каня.

— Перасадзі мяне цераз парог.

— Не вялікая пані, можаш і сама перабрацца.

Пералезла галава каня і зноў кажа:

— Пасадзі мяне на лаўку.

— Не вялікая пані, можаш і сама сесці, — адказала ёй Галя.

Села галава на лаўку і ўжо больш пра нішто не просіць бабінай дачкі.

— Улезь мне ў правае вуха і вылезь праз левае.

Улезла бабіна Галя ў правае вуха і выйшла праз левае. І стала яна страшнай, брыдкай. Раззлавалася яна на галаву і хацела яе выкінуць з хаткі. Тады галава паклікала ваўкоў і яны напалі на Галю.

А дома баба кажа дзеду:

— Едзь па маю дачушку, толькі куфар асцярожна вязі.

Прыехаў дзед у лес, сабраў Галіны костачкі ў торбу і вярнуўуся дахаты. Мачыха як пабачыла костачкі, павалілася на зямлю і памерла.

А дзед са сваёй дачушкай стаў жыць, дабро нажываць.

Зорка

## Польска-беларуская крыжаванка № 6

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Szczelina / Warkocz | | Winda | | Czołg |
| Zamieszanie | | | | | | | |
| Łan, pole | Kalina | | | | | | |
| Nos / Wina | | | | Punkt turniejowy | | Sen | |
| | | | | Roztopiony tłuszcz | | | |
| Półfinał | | Prawo, reguła | Зорка № 6 | | | | |
| | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 2: Багаты вечар.**

Узнагароды — **фламастэры** — выйгралі: **Мар'юш Саковіч** і **Гжэгаж Мартынюк** з Бельска-Падляшскага, **Міхал Ялінчк** і **Юліта Лаеўская** з Гайнаўкі, **Дарота Харкевіч** з Дубін, **Бася Казімерук** з Елянкі, **Губерт Гайдучэня** з Гарадка, **Анна Далінская** са Старога Корніна, **Андрэй Крук** з Катоўкі і **Ева Ахрымюк** з Крыўца.

## Князь Вітаўт

Вялікі князь Вітаўт жыў у 1350-1430 гадах. Быў адным з самых выдатных гаспадароў Беларусі, а пры яго панаванні дзяржава дасягнула найвышэйшай у сваёй гісторыі магутнасці. Правіў ён краінай у час знешняй агрэсіі суседзяў і складаных унутраных умоў. Пасля забойства Вітаўтавага бацькі, вялікага князя Кейстута па загаду Ягайлы — дваюраднага яго брата, Вітаўт уцёк да крыжаносцаў, заключыў з імі саюз і пачаў змаганне з Ягайлам за найвышэйшую ўладу ў Вялікім княстве Літоўскім. Неўзабаве Ягайла заключыў з палякамі унію ў Крэве і стаў каралём Польшчы, але адначасова падпарадкаваў інтарэсы Беларусі інтарэсам свайго каралеўства. Вітаўт, змагаючыся з Ягайлам, дамагаўся апрача ўлады ў Вялікім княстве Літоўскім таксама яго незалежнасці. Усё гэта атрымаў пасля пагаднення з каралём Польшчы ў 1401 годзе.







Будучы вялікім князем, пашыраў ён сваю дзяржаву на ўсход, уключаючы ў яе склад Смаленшчыну. Некалькі разоў Вітаўт уступаў у саюз з крыжаносцамі, але гэта не стрымала іх ад пастаянных нападаў на беларускія гарады Ліду, Навагрудак, Гародню. Дагаварыўся тады са сваім братам, каралём Польшчы Ягайлам і пачаў падрыхтоўку да вайны з крыжаносцамі. У 1410 годзе пад Грунвальдам беларуска-літоўска-польскім войскам была разбіта самая магутная армія сярэдневяковай Еўропы.

Вітаўт разумеў, што чарговыя уніі з Каралеўствам Польскім пашыраюць працэс акаталічвання і паланізацыі праваслаўных беларускіх князёў і феадалаў Вялікага княства Літоўскага. Хаця сам пасля трох хрышчэнняў у канцы стаў католікам, разумеў, што толькі поўная незалежнасць ад Польшчы можа гарантаваць магутнасць краіны. Пасля пару гадоў стараннаў у 1429 годзе атрымаў ад папы рымскага тытул караля і каралеўскую карону. У выніку польскіх інтрыг карона ніколі ў Вільню не даехала.

Падчас Вітаўтавага панавання ўсе дзяржаўныя пасты займалі беларусы, а беларуская мова была дзяржаўнай.

Талон „Зоркі" № 6
09.02.1997

# Цэнтральны дэкламатарскі конкурс

## 24.01.1997 НАРВА


Павел Герасімюк з Орлі.


Агнешка Галімская са Старога Корніна.


Павел Шупелюк з класа II „d” бельскай „тройкі”.


Пётр Аксянцюк са Старога Корніна.


Адам Грынявіцкі з Нарвы.


Жанэта Роля з бельскай „тройкі”.

Дэкламатарскія конкурсы паэзіі і прозы маюць многа паклоннікаў. У бельскай „тройцы”, на той прыклад, удзельнічала больш за 130 дзетак. Найбольшы энтузіязм выказваюць наймалодшыя школьнікі. На цэнтральным дэкламатарскім конкурсе выступіла 35 вучняў з малодшых класаў (гэта дзеткі з I па V класы) і 23 старэйшых.

— Раней у нас было больш навучэнцаў беларускай мовы, — адзначыў член журы сп. Аляксандр Іванюк. — Але было намнога менш удзельнікаў.

Мой субяседнік задаволены ўзроўнем конкурсу, асабліва культурай слова. Мне самой найбольш падабаліся выступленні наймалодшых дзетак. Пэўна таму, што гаварылі яны свае творы з дзіцячай шчырасцю, але і нядрэнным акцёрствам. Самай бліскучай індывідуальнасцю ў гэтым саставе паказалася мне Паўліна Пашко з Ласінкі. Паўліна — вядомая чытачам „Зоркі” як таленавітая вакалістка „Лісічак”. Цікава і сімпатычна выступіў Павел Герасімюк з Орлі. Дэкламаваў ён верш Авяр'яна Дзеружынскага „Малыш”. Пра поспех Паўліка, думаю, вырашыў і вельмі добры падбор верша. Прыгожа выступілі Натальта Бабулевіч з бельскай „тройкі” і Пятрусь Аксянцюк са Старога Корніна. Наогул усе выступленні дзетак мне вельмі падабаліся. Згадаю яшчэ пра выступленне Паўлінкі Леанчук з Пачатковай школы н-р 6 у Гайнаўцы. Паўлінка падрыхтавала вядомы ўсім твор Ю. Тувіма „Слон Трубака”. На беларускай мове гучыць ён не горш чым на польскай.

Сярод старэйшых выканаўцаў ярка вылучалася Агнешка Галімская са Старога Корніна. Агнешка мае вялікі талент, яна як ніхто ўмела *ўвайсці* ва ўнутранае жыццё дэкламаванага твора. Усё ж ад выступлення ў мяне былі няпоўныя ўражанні. Пэўна таму, што мне не падабаўся падбор твора. Агнешка дэкламавала „Баладу пра чатырох заложнікаў” Аркадзя Куляшова. Усё ж трэба сказаць, што была яна найбольшай індывідуальнасцю агляду.

Са старэйшых дэкламатараў я хацела б вылучыць цікавыя выступленні Монікі Калішэвіч і Жанэты Ролі з бельскай „тройкі”. Першая дэкламатарка непаўторна прадставіла верш Надзеі Артымовіч „Ікона”, другая выканала твор Уладзіміра Караткевіча „На Беларусі Бог жыве”.

Узровень выступленняў, на маю думку, быў няроўны. Усё ж такі трэба пахваліць усіх дзетак і настаўнікаў, якія многа працавалі, каб стварыць гэтае мерапрыемства. Слоў колькі сказаць трэба і пра гаспадароў. Ужо другі год адбываецца ў Нарве цэнтральны дэкламатарскі конкурс. Настаўнікі, дырэкцыя і дзеткі вельмі заангажаваліся ў гэтае мерапрыемства. Удзельнікі не толькі з'елі абед, але і гулялі ў розныя гульні і праводзілі конкурсы. І хаця фармальным арганізатарам было БГКТ, цяжка было б уявіць нарваўскае свята без спадарыні Ніны Абрамюк, працавітай і адданай беларускім справам настаўніцы.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

P.S. Вынікі конкурсу мы прадставім у наступнай „Зорцы”. Яны часткова адрозніваюцца ад маіх ацэнак.


Паўліна Пашко з Ласінкі.


Моніка Калішэвіч з бельскай „тройкі”.



Настаўніца Ніна Абрамюк з Нарвы.


Дэкламаткі з ПШ № 6 з Гайнаўкі з настаўніцай.

# Успаміны дзядзькі Мікалая

Дзядзька Мікалай — ураджэнец прынарваўскай вёскі. Нарадзіўся ўжо пры санацыі, калі бацькі вярнуліся з бежанства. Уся вёска тады была спалена і некалькі гадоў давялося ім жыць у зямлянцы, пакуль не пабудавалі невялічкую аднапакаёвую хатку, у якой жылі да 1951 года. Добра ён помніць, як маці казала, што нельга есці саланіны і піць салодкага чаю. І ведае чаму. З чацвяртухі ліхой зямлі цяжка было пракарміцца сям'і з чацвярыма дзяцьмі. Было добра, калі закалолі аднаго парсюка ў год. Рэдкім госцем на іхным сталe былі цукар і селядцы.

Мікалай — наймалодшы сын, як тады было заведзена, застаўся пры бацьках. Помніць ён, як іхнюю хатку часта наведвала паліцыя. Бацька быў членам Грамады. Відаць, ніякага кампрамата не знайшлі, бо яго не арыштавалі. Калі ў 1939 годзе сюды прыйшлі саветы, аблажылі сялян „предналогами", застаўлялі вазіць каменне на будову лётнішча каля Заблудава. У саветаў не было ні нядзелі, ні свята. На Тройцу ў саракавым годзе прыехаў у вёску савецкі дэпутат і пачаў выганяць сялян вазіць каменне. Калі жанчыны сталі яму тлумачыць, што ў вёсцы вялікае свята, Тройца, расхадзіўся ён не на жарты і стаў крычаць: „Какая тебе тройка, туды твою мать! Хотишь, сейчас оперативная тройка на белые медведи тебя отправит!" Людзі перапалохаліся і паехалі на лётнішча. Не паспелі саветы пабудаваць гэты аэрадром, не заплацілі таксама за работу сялянам. У чэрвені 1941 года немцы напалі на Савецкі Саюз. Калі пачалі бамбардзіраваць Заблудаў, палітрукі думалі, што гэта манеўры. Мясцовыя людзі ведалі, што гэта вайна, і, нягледзячы на небяспеку, кінуліся ў крамы за таварамі.

Прыйшлі немцы і зноў пачаўся тэрор ды прымусовая праца. Гэтым разам сялян прымушалі вазіць каменне на баранавіцкую шашу. Ездзіў і дзядзька Мікалай у ваколіцу Каралёвага Моста і Пяшчанік. Цікава і страшна было яму, тады зусім маладому хлопцу, глядзець на разбітыя ды спаленыя танкі і аўтамабілі, кучы боепрыпасаў, якія ляжалі ў кюветах паабапал шашы. Патронаў нельга было браць з сабою, бо немцы маглі пакараць. Ганялі немцы аднавяскоўцаў сячы лес аж у Жэдню. Мікалаевы бацька і старэйшы брат бралі з сабой харчоў на тыдзень і нанач дамоў не вярталіся. Яшчэ сёння стаіць дом ляснічага Коркуса ў Жэдні, у якім яны начавалі. Пры немцах бацька часам загадваў Мікалаю браць палку ў рукі і, бегаючы па панадворку, бразгатаць ёю па штыкецінах. А сам у той час малоў у жорнах жыта на хлеб. Хлапчуковае бразгатанне мела заглушыць перад суседзямі і немцамі гул жорнаў.

Тады ў лясах пачала арганізавацца савецкая партызанка. Рознае давялося пераносіць сялянам, калі немцы даведваліся, што яны бачылі партызан, але ім аб гэтым не далажылі. Мікалай і ягоная сястра сустракалі партызан, калі хадзілі ў лес па ягады і грыбы. Былі гэта знаёмыя, палонныя савецкія салдаты, якія ў пачатку акупацыі працавалі ў нашых сялян. Ведалі яны, што мясцовыя не павядомяць аб іх немцам. Даносілі нашы людзі партызанам ежу, інфармавалі аб рухах ворага.

З пасляваеннага часу Мікалаю запомніліся жудасныя весткі пра банды „Бурага" і „Лупашкі", пра тое, як спалілі яны вёску Патоку ў Міхалоўскай гміне і расстралялі нявінных жыхароў Пухлаў у Нарваўскай гміне, як забівалі нявінных людзей толькі за тое, што былі яны праваслаўнымі, як выганялі кацапаў у Расію. Калі настаў мірны час, дзядзька Мікалай са сваім бацькам пабудавалі новую хату. Потым Мікалай ажаніўся, дачакаўся чацвярых дзяцей. Актыўна дзейнічаў у Саюзе польскай моладзі (ZMP), быў членам Польскай аб'яднанай рабочай партыі (PZPR).

Час ішоў няўмольна. Бацькі паўміралі, дзеці пакінулі бацькоўскі дом, жывуць у гарадах.

*Мае родны дзеці*
*Разышлісь па свеце.*
*Ў гарадах вялікіх*
*Лягчэй стала жыці.*

напісаў у вершы „Зямля". Застаўся дзядзька Мікола з жонкай у вёсцы і ўвесь час гаспадаркай займаўся. Час ад часу прыязджалі дзеці дапамагаць ім у полі.

З палёгкай успрыняў Мікола ўвядзенне ген. Ярузельскім ваеннага становішча ў 1981 годзе, бо тады хадзілі чуткі, што кацапаў зноў будуць рэзаць і выганяць у Расію. Хаця ён сам быў членам ПАРП, то камуністам не быў. Але камуну ўспамінае з сантыментамі. Кажа: „Ой, сыночак ты мой! Пры камуне было намнога лепей і селяніну, і рабочаму. Гэрэк сялянам даў пенсіі, не было беспрацоўя, запрашалі на работу. Жыллё было таннае і хаця ў чарзе на кватэру прыходзілася стаяць доўга, можна адна было яе атрымаць. А цяпер усё даражэе безупынна. Кватэры стаяць пустыя, бо людзі не маюць за што іх выкупіць. Валэнса і яго паплечнікі знішчылі дзяржаву, усё за бясцэнак прадаюць, што мы пабудавалі".

Цяпер дзядзька Мікалай з жонкай — пенсіянеры. Дачакаліся яны шасцярых унукаў, пецярых унучак і аднаго праўнука. І хаця пенсія ў іх жабрачая, кожнае лета чакаюць унукаў, каб з імі радасна правесці канікулы. А калі прыязджаюць дзеці, абавязкова мусіць быць чарка.

Жадаю дзядзьку Мікалаю добрага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў супольнага жыцця з жонкай.

**Запісаў Мікалай Лук'янюк**

# Пакінула злосць у старым годзе

31 снежня ехала я аўтобусам, які а 18[45] ад'язджае з Мора ў Гайнаўку. У аўтобусе, калі я ўвайшла, было дзве асобы, жанчына і мужчына. У Старым Корніне даселіся мужчына і сужонства з дзяцьмі. Было ціха і здавалася, што спакойна даедзем у Гайнаўку. Выйшла аднак інакш.

У Старым Беразове, побач пачакальні ПКП, дзе затрымоўваецца чыгуначны аўтобус, стаялі два мужчыны. Яны махалі рукамі, каб затрымаць машыну. Вадзіцель затармазіў і яны ўвайшлі ў салон. Тады пачалося!

Жанчына, якая ехала з Бельска, накінулася на вадзіцеля:

— Чаго затрымаўся?! Гэта не чыгуначны аўтобус!

Калі на другім прыпынку села дзяўчына, тая жанчына зноў падняла крык:

— Чаго затрымаўся?! Не трэба было тут затрымоўвацца; будзеш нас везці цэлую гадзіну!

Мужчына, які ехаў са Старога Корніна, не вытрымаў:

— Чаго верашчыш тут, як ненармальная? Трэба вадзіцелю яшчэ падзякаваць, што спачуване людзям у такі мароз і забраў іх з чыгуначнага прыпынку. Таксама і на апошнім прыпынку трэба было забраць дзяўчыну.

— Я ўжо шэсць гадоў даязджаю, я ведаю як ёсць! Не трэба затрымоўвацца там, дзе не трэба.

— Маўчы ты, гаваруха! Як хочаш — зараз цябе за дзверы...

Усе пачалі смяяцца. Жанчына зноў сваё:

— Чаго смеяцеся! Я праўду гавару. А ты чаго так да мяне адзываешся? Я цябе добра знаю — мы калісь разам водку пілі і на танцы хадзілі.

— Якая ты мне сяброўка? Я цябе першы раз бачу.

— Добра, добра! Я ўсіх са Старога Корніна знаю, і з Махнатага.

Жанчына не пераставала гаварыць аж да прыпынку на Пашках у Гайнаўцы. Калі выйшла, мужчыны сказалі:

— Пэўна хацела ўсю злосць пакінуць у старым годзе, каб пазней быць прыемнай і ветлівай.

На апошнім прыпынку, на аўтобусным вакзале вадзіцель пажадаў нам усім шчасця ў Новым годзе. І мы яму пажадалі ўсяго добрага, і разышліся кожны ў свой бок. А тую жанчыну буду доўга помніць.

**Аўрора**

# Дэкламатарскі конкурс „Роднае слова" ў Гайнаўцы

16 студзеня адбыўся чарговы беларускі дэкламатарскі конкурс гайнаўскага раёна. Арганізатарам, традыцыйна, было Галоўнае праўленне БГКТ.

Удзельнікаў конкурсу, які адбыўся ў святліцы Пачатковай школы н-р 6 у Гайнаўцы, віталі словы Янкі Купалы „Магутнае слова, ты роднае слова, са мною ты на яве і ў сне". Конкурс адкрыла настаўніца беларускай мовы Тамара Грыгарук і папрасіла забраць голас старшыню ГП БГКТ Янку Сычэўскага. Прывітаў ён удзельнікаў конкурсу і іх настаўнікаў ды падзякаваў усім за зацікаўленне беларускай мовай у школах, якія прыслалі на конкурс так многа вучняў. Затым старшыня прадставіў удзельнікам конкурсную камісію: старшыню — Тамару Русачык, прадстаўніка Беластоцкай куратoрыі, адказную за навучанне беларускай мовы і адначасова намесніка старшыні ГП БГКТ ды членаў: вядомую паэтэсу Надзею Артымовіч і былога дырэктара Гайнаўскага беларускага ліцэя Аляксандра Іванюка.

Тамара Русачык пазнаёміла ўдзельнікаў з правіламі конкурсу і пажадала ўсім самых добрых ацэнак. Раіла ўсім лічыць конкурс святам, а не экзаменам: „Гуляйце ў артыстаў-дэкламатараў, выступайце са смеласцю і адвагай!"

У групе дзяцей з класаў II—V выступіла 50 вучняў пачатковых школ. Варта было бачыць, як яны выступалі!

Два першыя месцы заваявалі **Натал-ля Лемеш** са школы н-р 1 і **Эля Галавачык** са школы н-р 6 у Гайнаўцы. Два другія месцы занялі **Паўліна Леанчук** са школы н-р 6 у Гайнаўцы і **Паўліна Пашко** з Ласінкі. Тры трэція месцы: **Міхась Гэва** з Нарвы, **Юліта Федарук** са школы н-р 6 у Гайнаўцы і **Аня Дудзіч** з Ласінкі. Вылучаны былі: **Эвеліна Пліс** і **Міраслава Стоцкая** з Чыжоў, **Паўліна Васілюк** і **Аня Сянкевіч** са школы н-р 2 у Гайнаўцы, **Анэта Трафімюк** з Кленік, **Аня Крук** з Новага Корніна, **Пётр Аксянцюк** са Старога Корніна і **Ася Андрасюк** са школы н-р 3 у Гайнаўцы.

У групе вучняў з класаў VI—VIII прынялі ўдзел 31 вучань. Два першыя месцы занялі **Юстына Койла** з Дубін і **Іл-ёна Карпюк** са школы н-р 2 у Гайнаўцы. Другое месца заняла **Агнешка Сачко** са школы н-р 6 у Гайнаўцы. Трэцяе месца раздзялілі **Агнешка Галімская** са Старога Корніна, **Малгажата Янчук** з Курашава і **Давід Скавародка** з Дубіч-Царкоўных. Вылучаны былі: **Каміля Лабузінская** з Кленік, **Мажэна Трусевіч** з Нараўкі, **Бася Пучынская** з Семяноўкі і **Адам Грынявіцкі** з Нарвы.

Усе названыя лаўрэаты, апрача ўзнагарод і дыпломаў ад БГКТ, атрымалі таксама права выступіць на цэнтральным дэкламатарскім конкурсе беларускай мовы. Падчас перапынку арганізатары ўдзельнікаў конкурсу пачаставалі ласункамі і напіткамі.

На заканчэнне конкурсу старшыня камісіі Тамара Русачык падзякавала ўдзельнікам і іх настаўнікам за падрыхтоўку да конкурсу: „Гэта вялікі артызм перадаць думку аўтара сваімі словамі." Падказала таксама, што трэба дапрацаваць на цэнтральны конкурс.

На маё пытанне адносна конкурсу, члены камісіі былі аднадумныя: высокі ўзровень, вялікая заангажаванасць, шырокі рэпертуар. Дарэчы — толькі адзін твор дэкламаваўся двойчы! І калі надалей будзе такое зацікаўленне конкурсам, дык можна будзе рабіць гмінныя элімінацыі, як гэта сёлета зрабіла гміна Нарва. Гмінныя элімінацыі можна зрабіць у самой Гайнаўцы, у Гайнаўскай гміне і, магчыма, у Нараўчанскай.

Старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі на заканчэнне конкурсу падзякаваў за гасціннасць дырэктар Пачатковай школы н-р 6 у Гайнаўцы спадарыні Ірэне Кулачэўскай і тамашняй настаўніцы беларускай мовы Тамары Грыгарук. Выказаў таксама словы падзякі ўсім настаўнікам, якія рыхтавалі дзяцей да конкурсу.

На заканчэнне пералічу школы, з якіх дзеці прымалі ўдзел у конкурсных змаганнях: Дубіны, Ласінка, Нарва, Трасцянка, Крывец, Чыжы, Дубічы-Царкоўныя, Кленікі, Кляшчэлі, Нараўка, Новы Корнін, Семяноўка, Стары Корнін, Курашава і гайнаўскія школы н-р 1, 2, 3 і 6.

**Міхал Голуб**

# Ветэран вайны і працы

**Міхал ШЫМАНСКІ нарадзіўся ў 1921 годзе ў Орлі. Шаснаццацігадовым хлапчуком стаў працаваць у сямейнай кузні і вучыцца рамяству ў старэйшага брата Ігната. Іграў на карнеце ў мясцовым пажарным духавым аркестры, да сённяшняга дня спявае басам у царкоўным хоры. У 1944 годзе быў прызваны ў войска, змагаўся ў канчатковым перыядзе ІІ сусветнай вайны. Сёння так успамінае ён ваеннае ліхалецце:**

„14 кастрычніка 1944 года атрымаў я павестку з'явіцца ў ваенкамат у Бельску-Падляшскім. Калі апынуўся перад прызыўной камісіяй, назад ужо не адпусцілі. У Бельску абучалі нас з два месяцы, а потым адправілі чыгуначным транспартам у ІІ Загараджальны батальён, які стаяў у Мілоснай каля Варшавы. Там мы далі ваенную прысягу. Папаў я ў сапёрны ўзвод, а вядома, сапёр памыляецца толькі адзін раз.



Надышоў студзень 1945 года. Завезлі нас на Прагу, адкуль пайшлі мы вызваляць Варшаву. Горад быў разбураны — адзін друз і безліч трупаў, асабліва на Кярбедзевым мосце. Я размініроўваў розныя аб'екты, а мін там было хоць гаць гаці! Пасля вызвалення сталіцы пайшлі мы цераз Сахачаў і Бжэсць-Куяўскі ў напрамку Быдгашчы. Было холадна, галадна і страшна! Ежа пераважна была трафейная. Як далі ў Варшаве 800 грамаў самога хлеба, то больш не давалі аж да Быдгашчы. Ішлі мы безупынна наперад. Салдатам давалі яшчэ махорку. Гітлераўцы, адступаючы назад, забіралі з сабой кароў, коней, пакідалі толькі бульбу, дык мы яе сырую елі.

Меў я пяцізарадную вінтоўку (гранатаў не ўсім хапала), шынель, чаравікі з абмоткамі, якімі абкручваліся ногі да калена. Пасля памянялі нам вінтоўкі на пісталеты-кулямёты Шпагіна. Аўтамат страляў хутка, але калі дула нагрэлася, папасці ў цэль было складана.

Калі ўступілі мы на нямецкія тэрыторыі, то з харчамі стала лягчэй. Можна было знайсці ежу ў падвалах пакінутых дамоў. Аднойчы папаў нам у рукі сіроп, пасля якога ўсе захварэлі на дызентэрыю. З Быдгашчы пайшлі мы цераз Накла, Пілу і Валч на Калобжаг. Адтуль наш полк перамясцілі пад Берлін. Пасля заканчэння вайны нас прызначылі пільнаваць нямецкіх ваеннапалонных у лагеры ў мясцовасці Цытаў. Калі ліквідавалі лагер, тады мяне перавялі ў 6-ы Полк КБВ (Корпуса ўнутранай бяспекі) у Кракаве, у якім служыў я да зімы 1946 года. Там быў я шэфам склада ўзбраення. Сябры выязджалі ў горы змагацца з атрадамі АК і НСЗ, многія не вярталіся з акцый, гінулі ад братазабойчых куль. Калі прыйшло новае папаўненне, закончыўся мой тэрмін вайсковай службы. У Орлю вярнуўся я ў снежні 1946 года".

Міхал Шыманскі ажаніўся ў лютым 1947 года. Працаваў на гаспадарцы і ў кузні, а ў нядзелі і святы спяваў у царкоўным хоры. Аб цяжкой кавальскай працы, якой прысвяціў пяцьдзесят гадоў свайго жыцця, гаворыць з любоўю:

„Бывала, што калі нехта заказа ў мяне, напрыклад, матычку, то я яе да дня зраблю. Жонка злавала на мяне, што няма мяне дома. Тады ў кузні не было электратоку. Свідравальны станок прыводзіўся ў рух рукамі, агонь у горане падтрымоўваў скураны мех. Выканаў мне яго каваль Мароз са Шчытоў і спатрэбіліся на гэта дзве валовыя скуры. Патрэбную сталь вымалі мы з разбітых на вайне аўтамабіляў і танкаў, а потым то ўжо куплялі ў магазінах. Работы ў каваля тады было мноства. Рабілі сярпы, бо калісьці імі збожжа жалі, і нашу кузню нават серпніцай сталі называць. Каб зрабіць серп або сякеру, кавалю неабходны быў памочнік. Рабіў я матычкі, плугі, бароны, нажы, завесы, клямкі і замкі для дзвярэй. Падкоўваў я таксама коней. Сам рабіў падковы, гвоздзі, уфналі і гацэлі. Траплялія і неспакойныя коні. Тады нагу прывязвалася пастронкам, у пысу ўкладалася спецыяльную „файку" і конь стаяў спакойна. Сёння ўжо ніхто не падкоўвае коней. Гадуюць іх толькі на гандаль, рэдка для работы ў полі. Прападае кавальскае рамяства. Не вучаць гэтай прафесіі ў школах, а старых кавалёў штораз менш..."

Аб ваенным мінулым Міхала Шыманскага напамінае таксама дзесятак медалёў, а сярод іх найважнейшы — медаль Virtuti Militari, які прысвойваецца заслужаным на полі бою салдатам.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 нумары за 1996 г.)***

А цяпер некалькі прыкладаў з жыцця маёй вёскі пры санацыйнай Польшчы.

Трэба сказаць, што арыгіналаў у маёй вёсцы заўсёды хапала. Вось яшчэ адзін з іх.

Быў малады, баявы, вясёлы, і меў прыгожы голас. Спяваў ахвотна і задушэўна, і пераважна блатняцкія песні. Блатное жыццё ён ведаў, бо пасядзеў у свой час у турме, чым потым моцна ганарыўся. Ён хацеў лічыцца ў вёсцы і аколіцы героем, а для героя — паводле яго разумення — абавязкова трэба было мець за сабой і турэмнае прошлае, ну хаця б нейкі злачынны эпізодзік. Праўда, яго блатняцкі эпізодзік быў надта сціплы — толькі адзін труп на яго сумленні, але ўсё ж такі яго крымінальны рахунак не быў зусім пусты.

Будучы яшчэ юнаком, гэты хлопец вельмі хацеў стаць гарманістам. Да гэтага, аднак, патрэбны быў гармонік, але бацькі купіць яго не мелі за што, бо былі беднымі сялянамі. Зарабіць грошы таксама не было дзе, бо ў санацыйнай Польшчы з заработкам было вельмі-вельмі цяжка. Бадай адзінай крыніцай заработку вясковаму хлопцу было тады наняцца пастухом.

Прафесія пастуха — неганаровая, цяжкая і няўдзячная. Найбольш аднак неганаровым і няўдзячным заняткам быў свінячы пастух. Хлопец, аднак, так прагнуў стаць музыкантам, што з усім пагодзіўся і, сцяўшы зубы, стаў пасвіць свіней у суседняй вёсцы.

І так цягнуў сваю лямку дзесь да паўсезона. Цягнуў бы яе і далей, але здарылася няшчасце. У яго статку быў вельмі „ўрэдны" падсвінак, які лез і лез у шкоду і так разгневаў сваімі свінскімі паводзінамі будучага музыканта, што той рашыў правучыць яго па-мужчынску. Падкаравуліў яго і так ад душы цёпнуў, што той і працягнуў капыткі, дурыла. І нарабіў жа няўдзячнік клопатаў пастушку нямала.

Моцна перапужаны пастушок схаваў спачатку трупа ад людскога вока, а ноччу рашыў перанесці яго ціхенька ў агарод гаспадаравага суседа. Тым самым намякаючы ўласніку падсвінка, дзе і ад какога страціў сваё маладое жыццё яго парсючок. Вельмі хітра, хаця можа не зусім добрасумленна.

Зрэалізаваць аднак свой хітры план яму не ўдалося, проста атрымалася няўдача. Калі даносіў мёртвага падсвінка да вёскі, наткнуўся на свайго гаспадара, які выводзіў ужо на пасавое сваіх коней. Гаспадар саскочыў з каня і кінуўся да пастуха, а той кінуў нябожчыка і ў ногі. Пёр, падобна, як алень. Пяцікіламетравую адлегласць, якая дзеліць нашы вёскі, пакрыў так хутка, як марафонец. І хоць у скуру не дастаў, але зарплата, гармонік і кар'ера музыкі прапалі. Так недарэчна загінуў яшчэ адзін наш народны талент.

У часы народнай улады, будучы чалавекам ужо немаладым, ён не забыўся яшчэ свайго прызвання. Толькі цяпер змог купіць нейкі гармонік-скварэшнік і ціскаў яго днямі і начамі, хаваючыся ад людскога вока і вуха, бо саромеўся ўжо людзей. Музыкантам аднак не стаў. З сумам прызнаўся, што каб адным пальцам, то мог бы іграць, а ўсімі пальцамі абедзвюх рук адразу ніяк не выходзіць, агрубелыя пальцы непаваротлівыя ўжо. Шкада.

З-за матэрыяльных нястач гінулі неразвіўшыеся многія і іншыя нашы таленты. Галеча даводзіла і да іншых нецікавых спраў.

Было гэта пры санацыі. Пунктам гонару тадышніх нашых кавалераў было мець хромавыя боты з халявамі. Называлі іх тады афіцэркамі. Вельмі важным і патрэбным было, каб гэтыя боты скрыпелі ў час хады і тым самым звярталі на сябе і іх гаспадара ўвагу. Для большага скрыпу іх нават чымсьці націралі і мазалі.

Дык вось і адзін хлопец заказаў у жыда такія боты. На дамоўлены час афіцэркі былі гатовы, а ў хлопца не было за што іх выкупіць, і не выглядала на тое, што ў хуткім часе будзе. А боты атрымаліся цудоўныя, здавалася, што абуўшы іх, вартасць чалавека адразу непамерна ўзрасце. Дзяўчаты сваімі чароўнымі вочкамі толькі і будуць зыркаць на цябе...

Хлопец думаў-думаў як выручыць афіцэркі не маючы грошай і прыдумаў. Купіў імітацыю залатога пярсцёнка і пайшоў з ім да жыда. Там заявіў, што, на жаль, ён пакуль не мае яшчэ грошай на выкуп ботаў. Праўда, ёсць у яго вельмі цэнная рэч, сямейная рэліквія, якую мог бы часова заставіць, але баіцца, каб не прапала яна часамі. Жыд пацікавіўся, што гэта за рэч, і хлопец з велізарнай пашанай паказаў яму „залаты" пярсцёнак. Жыд яго дакладна агледзеў, і канешне ж напэўна пазнаў, што ён не залаты. Але хлопец так пераканаўча гаварыў пра вялікую каштоўнасць і вартасць гэтага пярсцёнка, што асцярожны жыд паверыў у тое, што хлопец лічыць гэты пярсцёнак залатым. І аддаў афіцэркі пад заклад пярсцёнка. І канешне ж не дачакаўся яго выкупу.

Многа пазней, сустрэўшы выпадкова хлопца на вуліцы, жыд толькі паківаў галавою і з дакорам сказаў: „Алексей, Алексей, я не надеялся". А той адказаў: „А я не спадзяваўся, што ўдасца мне абмануць яўрэя". І на тым скончылася.

Учынак майго аднавяскоўца канешне ж не падабаецца не можа, несумленны ён. Але трэба нам ведаць і тое, што да таких заганных паступкаў часцей за ўсё папіхалі нашых людзей вялікія недастаткі, беднасць...

***(працяг будзе)***

# Зімовыя шпацыры

Кожная пара года мае сваю, непаўторную прыгажосць. Нават марозлівая, снежная зіма, хаця і надакучыць чалавеку, то і заадно парадуе вочы. Мае сябры, д-р Сяргей Тарасевіч і паэт Барыс Руско, вельмі ахвотна наладжваюць зімой шпацыры па замерзлай рацэ Лясной, якая працякае цераз Белавежскую пушчу. Краявід тут надта чароўны — вочы проста губляюцца, а душа спявае.

— Некалькі гадзін на ўлонні белавежскай прыроды, — кажуць сябры, — ачышчае нас з усіх напружанняў — і псіхічных, і фізічных, дабаўляе сіл, чалавек вяртаецца дамоў перапоўнены радасцю, ахвотай да дзеяння.

Ад сябе дадам, што Барыс пасля вяртання з Лясной, напісаў не адзін прыгожы верш. Сёлета Сяргей і Барыс ездзілі на шпацыры амаль кожны дзень, нават Новы год прывіталі ў краявідзе рачнога чароту. Аж прыйшла адліга і спыніла гэтыя вандраванні. Я, на жаль, у гэтым годзе не мог спадарожнічаць сябрам, затое яны бралі з сабой Славаміра Марчука, кіраўніка аднаго з турыстычных бюро ў Белавежы. Ён у час вандроўкі зрабіў шмат прыгожых здымкаў і думае выдаць некалькі паштовак. Фатаграфаваў таксама і д-р С. Тарасевіч (ён на здымку стаіць з Б. Руско).

У гэтым годзе падчас шпацыраў па рацэ не абышлося без неспадзяванак. Аднойчы Барыс ледзь не адмарозіў пальца ў нагі. На шчасце, паратаваў яго Сяргей. Хутка наламаў чароту і падпаліў яго, раграваючы нагу — у самую пару! Барыс крыху сатанінска пракаменціраваў цэлае здарэнне: „Цяпер я ведаю, як будзе выглядаць мае цела пасля смерці!" Сяргей у сваю чаргу, хаця ён на лёд не ўваходзіць без „дапаможніка" ў выглядзе тоўстай палкі, якой правярае таўшчыню лёду, усётакі ўляцеў у ваду. На шчасце абышлося без прастуды.

**Пётр Байко**



## Лісты ў рэдакцыю

# Маліся, Беларусь, за Фенікса-Ельцына, калі ты адрынула Пазьняка і адцуралася ад яго!

Чалавецтва знаходзіцца на парозе XXI стагоддзя. Здавалася б, прыйшла пара запанаваць на зямлі стабільнаму міру, дружбе, узаемавыгаднаму супрацоўніцтву, узаемадапамозе паміж народамі...

Часу было дастаткова, каб усебакова і грунтоўна асэнсаваць сутнасць нашага жыцця на Зямлі і пабудаваць яго цалкам прыстойна, з годнасцю (зразумела, толькі на палажаных у аснову Божых Запаведзях).

Аднак нічога падобнага, на вялікі жаль, на самай справе не адбылося. Ніякіх гістарычных вывадаў не пачарпнулі з пражытага стагоддзямі некаторыя народы і краіны. Тут я маю на ўвазе, перш за ўсё, канкрэтна Расію.

Валодаючы незлічонымі прыроднымі багаццямі, яна не толькі сама валачэ да бессаромства ўбогае, унізьлівае існаванне, але і ўсяляк перашкаджае некаторым іншым краінам (асабліва суседнім) займець упэўненасць у сабе. Пад усялякімі сумніўнымі і спакуслівымі прычынамі-зачэпкамі яна заўсёды імкнецца ў канчатковым рахунку падмяць іх пад сябе, такім чынам, удушыць іх свабоду і незалежнасць.

Так, ледзь толькі Беларусь паспела займець доўгачаканую незалежнасць, як Расія тут жа прыліпла да яе, быццам лазневы ліст да задняга месца, са сваімі ўжо так абрыдзеўшымі аб'яднаннямі (саюзамі, садружнасцямі, супольнасцямі, федэрацыямі ды канфедэрацыямі).

Ганцы з Крамля ды Белакаменнай адзін за другім у адзіночку і цэлымі стаямі, нібы тыя груганы на падлу, хлынулі на пакуль што бесхрыбетную і бездапаможную Беларусь з надзеяй як мага хутчэй прыбраць яе да сваіх рук. Якая ненажэрная прага на чужое; які адкрыты, бессаромны цынізм; якія ўсё ж учэпістыя кіпцюры ў гэтага драпежнага двухгаловага расійскага арла!

Падобна, шавінізм і імперскія амбіцыі расійскіх горакіраўнікоў ад дэмакратыі нагэтулькі атруцілі іх свядомасць, што яны ўжо не здольны зразумець, у чым заключаецца сапраўдная веліч той або іншай дзяржавы, нацыі або народа.

Толькі выжыўшыя з розуму людзі могуць дазволіць сабе сцвярджаць, быццам мара Лукашэнкі аб'яднаць Беларусь з Расіяй супадае з жаданнем усяго беларускага народа.

Прэзідэнцтва ж Лукашэнкі на Беларусі — гэта ўсяго толькі прыкры, вельмі сумны і ганебны перыяд у яе гісторыі, хоць і з'яўляецца заканамернай з'явай, бо на гэта ёсць Божая Воля і Ягоны Промысел. Гэты Божы Промысел мае на ўвазе мэту пакараць беларускі народ за амаральнае і нават злачыннае нежаданне ці няўменне належным чынам скарыстаць Незалежнасць, падораную Беларусі Усявышнім у 1991 годзе. Гэты Промысел дае народу пэўны час, каб яму стацца відушчым, і для абуджэння ў яго нацыянальнай самасвядомасці, станаўлення сапраўды жыццяздольнай беларускай нацыі.

Дай Бог, каб другое нараджэнне Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Мікалаевіча Ельцына (пасля аперацыі на сэрцы) аказалася, сталася выратавальным для сапраўднай дэмакратыі не толькі ў Расіі, але таксама і ў Беларусі.

Цяпер у нас, беларусаў, найбліжэйшая надзея толькі на нанава і звысоку народжанага Фенікса-Ельцына.

Факт вываду расійскіх войск з Чачні згодна нядаўняга ўказу папраўляючагася Ельцына абнадзейвае.

Калі гэта так, то няхай, мацнее дружба, добрасуседства і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва паміж сапраўды незалежнымі, паўнапраўнымі і дэмакратычнымі Расіяй і Беларуссю.

**Алесь Ляскоўскі**

# Чарговы раз пра А. Лукашэнку

Я — чалавек неадукаваны. Беларускай мове два гады мяне ўсяго вучылі. У маленстве цяжка давялося мне хварэць і самыя бурлівыя гады праляцелі побач мяне. Частае прабыванне ў бальніцах і даволі частыя аперацыі не дазволілі здабыць нейкую прафесію ці закончыць сярэдняе вучылішча. Лёс не паскупіў рознага роду прыкрасцяў. Аднак на яго няма поваду абурацца ці крыўдзіцца. Ён мне дазволіў карыстацца самым каштоўным у жыцці кожнага чалавека — разбірацца лагічна ў рознага роду абставінах. Уласна кажучы, што такое дэмакратыя? Хто яе прыхільнік, а хто вораг?

Актуальна ніўскія журналісты праліваюць кракадзілавыя слёзы над Рэспублікай Беларусь. Прышываюць усё новыя і новыя чорныя латкі прэзідэнту Лукашэнку.

Ці гэта згодна з правамі дэмакратыі?

Па-мойму — не. Не імкнуся бараніць прэзідэнта Беларусі. Я толькі бараню дэмакратыю. Бо калі большасць выбаршчыкаў Рэспублікі Беларусь дэмакратычным спосабам, у ходзе такога ж самога галасавання выбіраюць на пасаду прэзідэнта менавіта А. Лукашэнку, то ягоныя непрыхільнікі (апазіцыя) павінны падпарадкавацца большасці і дазволіць яму спакойна, без ніякіх там дэманстрацый давесці да канца кадэнцыю, а затым выбраць свайго кандыдата прэзідэнтам, калі апазіцыя ў змозе будзе прыцягнуць адпаведную колькасць электарату. На жаль, апазіцыя такога электарату не мае і сілаю намагаецца вырваць прэзідэнцкае крэсла з-пад А. Лукашэнкі. Вельмі часта ўключаю I праграму Мінскага радыё, цікаўлюся падзеямі на Беларусі, між іншым слухаю „Сельскую раніцу" і толькі таму жыве яшчэ Беларусь, бо жывуць у ёй яшчэ калгасы і саўгасы, у іншым выпадку Беларусь пастаўлена была б на калені. Аб гэтым павінен ведаць спадар Я. Максімюк. Слухаў я таксама трансляцыю з усенароднага сходу перад рэферэндумам і ўпэўнена скажу аб гэтым, што дэмакратыя на Беларусі ёсць захаваная. Паколькі дамінуючую колькасць апазіцыі састаўляюць Зэнкі, Стаські, Мечыславы і ім падобныя, то зразумела, што гэта абазначае і што чакае Рэспубліку Беларусь.

Ці занікне беларуская мова ў выніку інтэграцыі з Расіяй? На гэта не маюць ніякага ўплыву ні А. Латышонак, ні М. Ваўранюк, ні Я. Максімюк і ім падобныя ягамосці. Аб гэтым вырашыць беларускі народ. Мне здаецца, што беларуская мова не прападзе ў карысць рускай, таму што яна надта прыгожая і не кахаць яе нельга.

**Валянцін Семянюк**

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXV**

Прадаўжаю цытаваць невядомага мне з прозвішча студэнта, які досыць рэзка выказаўся супраць ідэі беларускага патрыятызму і беларускай мовы як сродка зносін паміж маладымі беларусамі:

„Незалежна ад таго, што вы напішаце і што скажаце аб патрэбе ўжывання беларускай мовы ў адносінах паміж маладымі беларусамі, усё гэта пойдзе ў пустэчу і не дасць ніякага рэзультату. Ці вы не бываеце на вёсках і не бачыце, што там робіцца? То ж усе беларусы, пачынаючы ад першага дня нараджэння сваіх дзяцей, гавораць да іх толькі па-польску. Вы толькі прайдзіце па вуліцы ў Шымках, а думаю, што і ў сваіх Бандарах, і паслухайце як размаўляюць дзеці, якія ўжо адарваліся ад матчынае спадніцы і выйшлі на вуліцу. Усюды пачуеце, што гэтыя дзеці размаўляюць папольску. То як вы думаеце павярнуць іх на сваю беларускую веру? То ж няма сумненняў, што яны будуць палякамі, а не беларусамі. І таму яшчэ раз вам гавару, што рацыю мае праваслаўная Царква, якая вуснамі сваіх найвышэйшых епархаў гаворыць аб праваслаўных паляках, а не праваслаўных беларусах. Я ведаю вашы аргументы аб тым, што рэлігіі нельга мяшаць з нацыянальнасцю, а тым болей з дзяржаўнасцю. І той факт, што беларус жыве ў Польшчы, не мянае яго нацыянальнасці на польскую. Можа вы тэарэтычна і маеце рацыю, але не маеце яе практычна. Канец XX стагоддзя характарызуецца прагматызмам, а не эмацыянальнасцю. А прагматызм пхае ўсіх беларусаў у Польшчы ў абдымкі польскасці.

Вы ж толькі паглядзіце, нават такія гордыя і поўнасцю ўфармаваныя народы як немцы, французы ці англічане нараджаюцца з рэзкім абмежаваннем сваёй суверэннасці. Вы ж ведаеце, што ўжо ёсць еўрапейскі парламент, што памалу ўводзіцца адна еўрапейская валюта, якая будзе выцясняць нацыянальныя грошы. Практычна, амаль што поўнасцю ліквідаваны межы паміж еўрапейскімі краінамі, узнік еўрапейскі рынак і яшчэ Бог ведае што, што пярэчыць ідэі суверэннасці паасобных еўрапейскіх краін. Ну дык як вы хочаце бараніць сваю Беларусь ад той стыхіі, якая апаноўвае ўсе еўрапейскія народы? То ж Беларусь нічога не мае! Ні моцнай культуры, ні моцнай мовы, ні моцнай нацыянальнай свядомасці. Я быў некалькі разоў у Беларусі. Увогуле быў я там можа тры тыдні. Ці вы ведаеце, што я ані разу нідзе не пачуў, каб нехта размаўляў па-беларуску? Ані ў Гродне, ані ў Брэсце, ані ў Мінску. Ну то скажыце, з кім вы хочаце будаваць сваю Беларусь. Ці вы не разумееце, што нельга рэалізаваць усё роўна якую ідэю супраць волі народу? А беларускі народ выразна не хоча таго, чаго хочаце вы. А насуперак волі народу нельга нічога зрабіць. Хіба што хтосьці з'яўляецца палітычным самагубцам. Многа разоў я размаўляў таксама з тымі беларусамі, якія прыязджалі ў Польшчу на спекуляцыю. Беларусы ўвогуле не думаюць аб сваёй самастойнасці. А калі і гавораць, то з таго што кажуць выразна вынікае, што яе баяцца. Усе яны ў адно сцвярджаюць, што без Расеі жывецца ім горш, чым з Расеяй. І таму ім гэта незалежнасць патрэбна так як пятае кола ля воза. А як жа можа ўтрымацца гэта незалежнасць, калі грамадства выразна яе не прагне і не жадае? А з беларускай мовай дык справа выглядае яшчэ горш. Усе беларусы, пагалоўна, лічаць рускую мову лепшай чым свая. Я сустрэў некалькі полек з Гродна, якія вучацца ў Польшчы. Ці вы ведаеце, што яны паміж сабою размаўляюць па-руску? Ну, дык калі ўжо выхаваны там полькі, нягледзячы на ўвесь патрыятычны польскі ціск, якому яны тут падлягаюць, трымаюцца рускай мовы, дык аб чым можа быць гутарка ў выпадку беларусаў, на якіх па сутнасці ніхто не ціснe — ані школа, ані царква, ані дзяржава. Яны ёсць і будуць рускамоўнымі. А калі ў выніку збліжэння да Еўропы, будуць эвалюаваць, дык не ў напрамку беларускай, але толькі і выключна ў бок англійскай мовы. Тут я гавару аб беларусах з Беларусі, а пра беларусаў з Польшчы дык шкада слоў, няма аб чым гаварыць. Зрэшты, вы мне назавіце прынамсі пяцёра дзяцей беларускіх дзеячаў з Польшы або беларускіх пісьменнікаў, якія гаварылі б па-беларуску. Я такіх увогуле не ведаю і думаю, што іх няма. Я думаю, што ўсе яны раней ці пазней рвануць на захад і там вельмі хутка замерыканізуюцца. Не думайце, што ў абсягу іх мараў знаходзіцца выезд і пасяленне ў Беларусі і развіванне там беларускага місіянерства. Калі так думаеце, то думаеце вельмі наіўна. Ну, дык навошта існуе ўся гэта пляяда беларускіх дзеячаў, арганізацый і пісьменнікаў у Польшчы? Каму яны патрэбны. Яны толькі вырываюць і марнатравяць дзяржаўныя грошы. Марнатравяць на пустую, нікому непатрэбную і зусім бесперспектыўную справу. Я думаю, што ўсё гэта, што я вам гавару, вы і самі добра разумееце. І таму мне зусім незразумела, чаму займаецеся гэтай справай. Чаму хочаце збудаваць нейкую малую беларускую айчыну ў Польшчы і вялікую беларускую айчыну ў Беларусі, ведаючы, што нічога з гэтага не можа атрымацца? Дык атрымліваецца нейкая ідэфікс і болей нічога. Пустая гэта ідэя, пане Баршчэўскі".

**Алесь Барскі**

# Адна мясцовасць — газеты дзве

У мінулым годзе ў Белавежы пачала выдавацца мясцовым самаўрадам газета „Białowieżanin". Паколькі яе рэдактар Анджэй Антчак замнога пакрытыкаваў войта гміны, той адказаўся супрацоўнічаць з крытыканам і неўзабаве паявілася новая „самаўрадаўка" — „Głos Białowieży". Рэдактарам гэтай жа газеты быў назначаны Марэк Крыда, уласнік аднаго з тутэйшых прыватных турыстычных бюро. Здавалася, што па „Białowieżaninie" і памяць загіне, але, вось, нечакана ён ізноў паявіўся, цяпер ужо як цалкам прыватная газета А. Антчака. А паколькі А. Антчак працуе ў Надлясніцтве Белавежа, яму хутка ўдалося пераканаць шэфаў гэтай установы да спонсарства сваёй ініцыятывы.

І такім чынам зараз Белавежа мае дзве газеты. Дзякуючы спонсару, „Białowieżanin" распаўсюджваецца бясплатна і паяўляецца раз у два тыдні, дабаўма — рэгулярна. „Głos Białowieży" каштуе 50 грошай і лічыцца штомесячнікам, хаця за лістапад і снежань 1996 г. паявіўся аб'яднаны ў адзін нумар і то толькі ў студзені г.г. Што ж, яшчэ адзін доказ, што прыватная ініцыятыва больш жвавая!

Паколькі я супрацоўнічаю з адной з газет, не мне даваць ацэнку, каторая з іх лепшая. Усё-такі мо і добра, што выходзяць дзве газеты. Яны прадстаўляюць рознабаковыя погляды на тыя самыя справы, таму і чытач можа глыбей унікнуць у іх сутнасць.

**Пётр Байко**

# Позірк у мінулае

**14 лютага**

869 г. — памёр Кірыла, славянскі асветнік. Яго першае імя — Канстанцін, імя Кірыла прыняў ён пасля манаскага пострыгу перад смерцю. Нарадзіўся ён каля 826 г. у Салуне ў арыстакратычнай сям'і. Ягоны бацька Леў, праўдападобна грэк, займаў высокую ваенна-адміністрацыйную пасаду. Маці праўдападобна была славянкай. Разам са сваім старэйшым братам Мяфодзіем выхоўваўся ў мешаным грэчаска-славянскім асяроддзі, атрымаўшы прытым салідную грэчаскую адукацыю. З чатырнаццаці гадоў Канстанцін працягваў навуку ў Канстанцінопалі ў асяроддзі вышэйшай візантыйскай арыстакратыі. Засвоіў там высокія веды, а таксама вывучыў, апрача грэчаскай, лацінскую, стараяўрэйскую і арабскую мовы. Адным з настаўнікаў Кірылы быў Фоцій, выдатны вучоны і царкоўны дзеяч. Закончыўшы школу, стаў там жа на працу на пасадзе настаўніка філасофіі і бібліятэкара патрыяршай бібліятэкі. Хутка выявіў свае неардынарныя здольнасці і яго пачалі пасылаць з адказнымі, не толькі царкоўнымі, але і палітычнымі задачамі. У 851 г. наведаў ён Багдадскі халіфат, а пазней Хазарскі каганат. У 863 г. у Канстанцінопаль з'явілася пасольства ад вялікамараўскага князя Расціслава, які прасіў імператара Міхаіла III прыслаць у Маравію славянскіх настаўнікаў хрысціянскай рэлігіі. Расціслаў хацеў такім чынам адмежавацца ад уплываў нямецкага духавенства, якое нахлынула ў яго славянскую дзяржаву. Міхаіл III даручыў гэтую задачу братам Канстанціну і Мяфодзію, салунянам, бо ўсе жыхары Салуна добра ведалі славянскую мову. Стварэнне славянскага пісьменства ставалася неабходным, бо ў межах Візантыі, як і ў суседняй Балгарыі пражывала многа славян, і Кірыла ўжо раней займаўся працай над стварэннем славянскага алфавіта, а таксама перакладам на славянскую мову царкоўных кніг. Нявырашаным пакуль з'яўляецца пытанне, які алфавіт стварыў Кірыла; даследчыкі схіляюцца да меркавання, што была гэта глаголіца, а займеўшая яго імя кірыліца паўстала крыху пазней у сталіцы старабалгарскай дзяржавы Праславі. Паколькі асноўнай мэтай стаўшай перад Кірылам і Мяфодзіем новай задачы было азнаямленне славянскіх жыхароў Вялікамараўскага княства з хрысціянскай рэлігіяй, прыйшлося ім пераводзіць на славянскую мову ўсе неабходныя для багаслужэння кнігі, у першую чаргу Евангелле, Апостал і Псалтыр, і навучаць новай грамаце тамашняе духавенства. Пасля трох гадоў цяжкай працы браты-асветнікі падаліся ў Рым, каб далажыць папе пра сваю місію і атрымаць ягоную падтрымку ў барацьбе з нямецкім духавенствам. Па дарозе наведалі яны славянскае княства Панонію, якое адміністрацыйна падлягала Зальцбургскай епархіі. Тамашні князь сардэчна прыняў братоў ды і сам зацікавіўся славянскім пісьменствам. Па яго просьбе Кірыла з Мяфодзіем на працягу паўгода навучылі 50 вучняў. Далейшая дарога ў Рым пралягала праз Венецыю, дзе браты паспяхова тлумачылі неабходнасць багаслужбы на больш мовах, чым прынятых тады толькі трох: стараяўрэйскай, лацінскай і грэчаскай. У Рыме братоў урачыста прыняў папа Адрыян II, які, пабачыўшы літургію ў іх саслужэнні, прызнаў славянскія кнігі. У Рыме, аднак, Кірыла хутка захварэў і памёр. Пахаваны ён у базіліцы св. Клімента; астанкі св. Клімента, рымскага архіепіскапа з I стагоддзя, Кірыла раней адкрыў у Херсонесе на Крыме. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Адыдзі

Пайшоў у царкву, памаліўся.
Ішоў дахаты, пахмяліўся.
Авантуру стаў учыняць,
Жонку з хаты выганяць.
Узняўся лямант у хаце,
Сталі дзеткі бацьку гнаці:
— Ідзі ад нас нячыста сіла,
Хай цябе возьме халера.
Мы пачнем жыць толькі з маці,
Будуць людзі шанаваці.
Адыдзі ты, не прыходзь,
Нам цябе не трэба.
Станем зямлю абрабляць,
Не забракне хлеба. —
Калі бацька адышоў,
Перастаў маліцца.
Другое жонкі не знайшоў,
П'яніцай зрабіўся.

**Мікалай Лук'янюк**

## Родная старонка

Гэты нарваўскія лонкі,
Гэты нарваўскія палі,
Гэта родная старонка,
Гэта радзіма мая.
Прынарваўскія лясы
Чысту ваду з рэчкі п'юць.
Цераз Пушчу белавежску
Ручаі вады бягуць.
У рэчках чыстая вада,
Як люстэрка адбівае;
Хто не быў у пушчы,
Той таго не знае.
Як жа лёгка дыхаць,
Калі ў пушчы прабываем,
А жывучы ў горадзе,
Мы таго не знаем.
Наша Пушча белавежская
І яе лясы-дубровы —
Сярод нашага народа
Жыве родная мова.

**Мікалай Пучко**

## Чалавек і пакаленне

Чалавек
Жыве век
На зямлі коратка,
Хаця мо ён і золатка,
Бо жыве 60-70 гадоў
Ад многіх радоў.
Пасля памірае
І пакаленне пакідае.
Родзіцца дзіцём
З новым жыццём.
Бацькі гадуюць
І правіны часта даруюць,
Бо гэта родныя бацькі,
А не чужыя і не дзядзькі.
Цешацца ім, ганарацца
І няма часу злавацца.
Калі ў доме дух хрысціянскі
І не чужы, не паганскі,
Вырасце чалавек справядлівы,
Часта патрыёт і не баязлівы;
Стане карысны для краіны,
Бо вырас на Хрыстовай падваліне.
Але калі рос у сям'і бязбожнай
і дзікай,
Бальшавізмам і фашызмам спавітай,
Дабра ад яго не чакай —
Лепш уцякай!
Ад такіх бываюць зладзеі,
Злачынцы і ваенныя падзеі,
Такі чалавека лёгка заб'е
І ў радасцях уздыхне.
Такому пляваць на жывую прыроду,
Ідзе супраць народа.
І бяда, калі дарвецца на прастол —
Гэта яго ўлада і круглы стол.
І такія на зямлі правілі
І ганьбай краіну праславілі,
Давялі да галечы,
Бо кавалі свае мечы.
Замест людзям рабіць дабро,
Яны тварылі нянавісць і зло,
Вучылі не прызнаваць Бога;
І гэта левая дарога,
І яны пацярпелі крушэнне
За лаянку, бязбожнасць, курэнне.
І народ цярпіць,
І аб дабры толькі сніць.
Мо новае пакаленне зменіцца
І дабро з верай у Бога вернуцца.
Дай Бог, каб гэта прыйшло
І месца сабе найшло.

**Мікалай Панфілюк**

# Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ■ | 2 | ■ | 3 | ■ | 4 | | 5 | | 6 | |
| 7 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 8 | | | | | |
| 9 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 10 | 11 | | 12 | | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | | 17 | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 18 | | | | | | |
| 19 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |

**Гарызантальна:** 4. рака ў Паўднёвай Амерыцы, 7. кантынент, 8. пасля пятніцы, 9. 60 мінут, 10. Багдан Андрусішын, 14. збудаванне для перахоўвання збожжа, 18. сістэма судовых устаноў, 19. прылада для штучнага ацяплення, 20. футбаліст зборнай Галандыі ў 70-х гадах, 21. паэтычная гара ў Грэцыі.

**Вертыкальна:** 1. савецкая ферма, 2. аўтар „Рыгалета", 3. смала, якая выцякае з хваёвых дрэў, 4. у даўняй Русі: гандлёва-прадукцыйная частка горада, 5. каштоўны мінерал, 6. балота, дрыгва, 11. напр. спявак, скульптар, 12. пасля серады, 13. чарнільная пляма, 15. порт у Балгарыі, 16. французскі пісьменнік (1866—1944), 17. адценне, тонкае адрозненне. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 51 н-ра:

**Гарызантальна:** скок, ануча, ігумен, асот, клерк, аканом, Бабруйск, ангар, маслёнка, Наманган, факір, кісларод, Тырана, нацыя, неба, мастак, Шырма, Ілья.

**Вертыкальна:** анілін, Шчэрба, Кастрама, Кітай, бурак, герой, каранцін, ксілафон, акно, гама, знак, жанр, ансамбль, адажыо, ідыёма, вырай, карта, санкі.

**Міні-даведнік**

**Нескенс** — галандскі футбаліст.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Надзея Сцяпанава** з Віцебска і **Міхал Байко** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне! Сніўся мне мой зяць-нябожчык. Пры ім я забіла аднаго пацука (пасекла на кавалкі), другога прыбіла, а пасля яму кажу: „Яшчэ раз дам яму ў галаву, каб насмерць!" І забіла другога. У маёй дачкі пакуль што шмат праблем. Ці сон прадвяшчае штосьці на яе тэму?

**Іда**

Астроне, мне нядаўна прысніўся нетыповы сон. Прынамсі мне ніколі такое не снілася, і таму я вырашыла напісаць табе, каб ты мне растлумачыў, што тут і да чаго. Быццам у адным з пакояў нашай хаты на столі зрабілася пляма. Я не ведаю, ад чаго гэта сталася, але вельмі мяне гэта пляма непакоіць. Пэўна, недзе працякае дах!Клічу свайго мужа, паказваю яму. А пляма тым часам павялічваецца, з яе пачынае капаць. Пэўна, сон нядобры, га, Астроне!

**Галіна**

Іда! Твае сябры гэта, магчыма, твае ворагі. Пацукі абазначаюць, што ёсць у цябе скрытыя ворагі, ад якіх табе цяжка пазбавіцца. Тое, што ты гэтых пацукоў забівала, прадвяшчае, што ў тваім жыцці будзе нейкі смутак. А, вядома, што праблемы дачкі гэта і твае праблемы.

Галіна! твой сон гаворыць аб тым, што чакае цябе крыўда, непрыемнасць. Пляма — дзе б яна не паявілася, на вопратцы ці на столі — абазначае, што ў тваім жыцці нешта запляміцца. Можа хтосьці табе або камусьці з сям'і падложыць свінню. Ты павінна да гэтага падрыхтавацца. Так, напэўна, гэта будзеш калі не ты, дык нейкі твой блізкі сваяк, які звязаны з вашай хатай: мо дзеці ці ўнукі, калі ў цябе яны ёсць. Што ж, жыццё яно такое.

**Астрон**

# Дзе прападае „Ніва"?

Два гады таму прапаў мне адзін нумар „Нівы". У 1996 годзе гэта паўтарылася.

5 снежня лістаноша не прыехаў у Мора, бо плаціў пенсіянерам грошы ў другіх вёсках. На наступны дзень прыехаў і сказаў, што „Ніва" будзе ў панядзелак. Я цярпліва чакала да панядзелка.

У панядзелак „Нівы" не было. І ў аўторак таксама. У чацвер прыйшоў новы нумар. А папярэдні так і прапаў.

Не магу зразумець, чаму так бывае, што калі няма нейкага экземпляра польскай прэсы, яго дашлюць у наступны дзень, а калі няма „Нівы", дык не дасылаюць увогуле.

**Аўрора**


Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł, a kwartalnie — 22,75 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Пародыі

**Танец у Эдэм-агародзе**

*Учора*
*танцавала ў Эдэм-агародзе*
*не саромелася галізны*
*вольная ды пеўчая...*

***Яніна Шостак***

У Эдэм-агародзе, дзе шмат буракоў,
Танцуе Яніна сярод мужыкоў.
Галоткая ўся, нібы той агурок,
Аж пот у Яніны ад танцаў пацёк.
На грады прыселі усе мужыкі:
— Вось гэта дзяўчына! І танец які!
А бёдры якія! І грудзі, і таз!..
Ў Эдэм-агародзе усё напаказ.
Танцуе Яніна, бы вольная птушка,
Ад ног адлятаюць укроп і пятрушка,
Сланечнікі, быццам партнёры яе, —
Ім яна дакрануцца да цела дае.
Усе мужыкі анямелі ад танцаў —
З ёй кожны на ноч пажадаў бы застацца.
Танцуе Яніна ў Эдэм-агародзе,
Ад танцаў вачэй мужыкі не адводзяць:
— Вось гэта Яніна! Танцорка, паэтка!
Такую сустрэць нам даводзіцца рэдка.
А вочы якія! А ногі, а плечы!..
Ў Эдэм-агародзе — эротыка стрэчы.
І я выпадкова туды завітаў,
Паэтку Яніну я ледзьве пазнаў:
Галоткая ўся, нібы той агурок...
І я паглядзець сеў ля плота ў куток.

**Сяргей Чыгрын**

# Сентэнцыі Надзеі Руско

*91-гадовую Надзею Руско з Белавежы, дарэчы, маці паэта Барыса Руско, чытачы „Нівы" мелі ўжо нагоду пазнаць. Наш тыднёвік друкаваў ужо запамятаныя ёю мясцовыя народныя песні, прыпеўкі і прымаўкі. Друкавалі мы і пару складзеных ёю песень. А вось сёння прапануем яе сентэнцыі, якія бабуся Надзя пачала прыдумоўваць у бягучым годзе, робячы хочаш не хочаш канкурэнцыю свайму сыну. Прачытайце і параўнайце!*

**Пятро Байко**

Як пачаў гнуці дугу, то не кажы — не магу!

* * *

Як расце палынок, то не вырасце лянок.

* * *

Кармі каня аўсом, а не бічом.

* * *

Мой запавет: дабру вучы дзіця з малых лет.

# Ніўка




*Мал. А. Шаўцова*

# З „Дзённікаў" Максіма Танка

***(заканчэнне з 4 н-ра)***

* * *

**20.IX.1960 г.** На вячэрняе пасяджэнне ААН Кірыла Трафімавіч Мазураў (І сакратар ЦК КПБ — рэд.) запрапанаваў мне ехаць у яго машыне. Перад намі і за намі імчалі матацыклісты і паліцэйскія машыны, сірэны якіх безупынку раўлі дзікімі гудкамі. У гэты час на вуліцы спыніўся ўсякі рух.

Кірыла Трафімавіч нават пажартаваў:

— Трэба перадаць амерыканцам, каб яны мяне так не рэкламавалі.

* * *

**24.IX.** Дарога ішла па ўсхваляванай невялічкімі пагоркамі, забудаванай дачнымі пасёлкамі мясцовасці. Паралельна з гэтай дарогай ішло яшчэ некалькі такіх жа бетаніраваных шырачэзных артэрый. Чорт ведае, колькі тут дарог і мастоў! І ніводнага пешахода. Відаць, хутка і ногі ў людзей зусім атрафіруюцца, і замест ног у кожнага амерыканца будуць якія-небудзь колы.

* * *

**1.X.** Сёння абмяркоўваецца пытанне аб аднаўленні ў правах Кітайскай Народнай Рэспублікі як правамоцнага члена ААН. Разгараецца надзвычай вострая дыскусія. І па гэтым пытанні ўзяў слова Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Такой атакі на галоўную цытадэль капіталізму — ЗША ніхто не адважыўся зрабіць за ўвесь час існавання ААН.

А пачаў ён сваё выступленне з жарту:

— Харошая краіна, а баржому няма...

* * *

**1.XI.** Аднаму з нашых дэлегатаў Ф. Кастра расказаў пра сябе анекдот. Аднойчы ён са сваімі братамі прыйшоў у рай. Святы Пётр пытае: „Хто вы?" — „Мы камуністы". — „А ты хто?" — пытае ў Фідэля. — „Я беспартыйны". — „Ты мне не хлусі! Я цябе добра ведаю. Пайшоў у рай!"

* * *

**3.XI.** Усе гэтыя дні рыхтуюся да сваіх выступленняў. Нейкі самагубца кінуўся ў Сан-Францыска са славутага моста Голдэн Гэйт. У машыне пакінуў запіску, адрасаваную жонцы: „Вада заліва будзе цяплейшай, як твая любоў".

* * *

**13.XII.** У гутарцы ўчора адзін з арабскіх дэлегатаў хваліўся, што ў іх самая выдатная канстытуцыя, Каран, бо яна напісана Богам.

**(„Полымя" № 10 за 1996 г.)**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Муж дакарае жонку:

— Не выкручвайся! На свае вочы бачыў, як у парку трымалася ты за рукі з нейкім мужчынам.

— То ты сваім вачам больш верыш, чым мне!?

* * *

Уласнік новага спартыўнага „Поршэ" забірае з дарогі падарожнічаючую аўтастопам турыстку і без лішніх цырымоній заяўляе:

— Хачу з вамі праспацца; якія вашы варункі?

— Змена шафёра.

* * *

— Ці Андрэй надалей раўнуе за жонкай без ніякай прычыны?

— Раўнуе ён надалей, толькі прычыны ўжо знайшліся.

* * *

Гутараць дзве жанчыны:

— Колькі гадоў тваёй дачцэ?

— Дваццаць адзін.

— Можа ўжо думае пра замужжа?

— Яна толькі і пра гэта думае.

* * *

Хлапец да дзяўчыны:

— Кахаю цябе і хацеў бы з табою ажаніцца. Адзінае, што магу табе ахвяраваць, гэта мая вялікая любоў.

— На жаль, мой дарагі, мушу табе адмовіць. Баюся пачынаць новае жыццё так зусім ад нуля.

* * *

Журналіст бярэ інтэрв'ю ў мэра горада:

— Ці лік вашых жыхароў пабольшваецца дынамічна?

— Не: ад многіх гадоў ён на пастаянным узроўні.

— Чаму?

— Бо калі якая жанчына народзіць дзіця, дык адразу нейкі мужчына паціху пакідае наш горад.

* * *

Маці да дачкі:

— Не раджу табе выходзіць замуж. Мужчыны нічога нявартыя; лепш ужо астацца старою дзеўкаю.

— Дык чаму ж ты не асталася ёю?

— Зрабіла гэта з любові да цябе.

* * *

— Што гэта такое бігамія? — пытае матроса жонка.

— З бігаміяю маем дачыненне тады, калі матрос мае дзве жонкі ў адным порце.

# *Сардэчныя* ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Ці ведаеш ты, што найгорш ацэньваць самога сябе?! І, думаю, найцяжэй кіраваць уласным жыццём. Мне заўсёды здавалася, што я ўсё ў жыцці раблю правільна, беспамылкова. Па прафесіі я — псіхолаг. Здаецца, усё я ўмела „зашуфлядкаваць", растлумачыць сабе і людзям, чаму менавіта так дзеецца, а не інакш. І людзі ішлі да мяне, як да нейкай чараўніцы, якая патрапіць змяніць увесь іх свет.

Не ўяўляеш сабе, як мне гэта імпанавала. І я старалася ўсёй душою быць з гэтымі пакрыўджанымі лёсам людзьмі, мне хацелася стаць не толькі іх дарадчыкам, але і сяброўкай, блізкім іх сэрцу чалавекам.

Сэрцайка! Мо так дзеялася таму, што ў нас не было дзяцей. Я мела больш свабоднага часу, чым іншыя кабеты, не гатавала кашкі, спала па начах, не мыла мыць пялёнкі. Ну, не падумай толькі, што я не дбала пра свайго мужа. Мо ім якраз займалася я больш, чым трэба. Гэта было заўсёды маё вялікае дзіця. Праўда, не было тут кашкі і пялёнак, але і так было што рабіць. Усё было на маёй галаве — і дом, і пакупкі, і догляд самахода. А яшчэ ж пры гэтым і прафесійная праца.

Мужу майму здавалася, як і тым людзям, якія прыходзілі да мяне па параду, што мне ўсё даецца лёгка і без праблем. Так што ён займаўся сваёй прафесійнай працай зусім спакойна. Больш таго, наш дом стаў прыстанішчам для гасцей, яго калег з так званых „вольных" прафесій. Кожны мог прыйсці да нас у любы момант, нават без запрашэння, і мне гэта падабалася. У нас быў вялікі дом, дзе можна было нават пераначаваць, а ў халадзільніку было, як правіла, поўна яды. Неспадзяванаму госцю я магла маментальна кінуць на патэльню загадзя падрыхтаваную катлеціну ці даць нейкую салату, рыбу. Я вельмі люблю кухню, і гатавала бесперапынна.

Вядома, я гэта рабіла перш за ўсё з кахання да мужа. Божа, як жа мне хацелася дагадзіць яму! І тое гатаванне, і тыя зборышчы людзей, гэта ж усё рабілася для яго, каб ён быў задаволены.

Ва ўсім гэтым гармідары я бачыла толькі праяву мужавай дружалюбнасці. Для мяне ён быў цэлым светам, я надзяляла яго ў сваіх думках найлепшымі рысамі чалавека. Бадай, закаханая баба заўсёды бачыць мужыка такім анёлам. Нават не заўважыла я, што большасць „каляжанак", якія наведвалі нас (часта са сваімі мужамі), гэта былі каханкі майго мужа, пра што я даведалася значназначна пазней. Па таму прынцыпу, што „жонка заўсёды даведваецца апошняя". Я ж думала, што ён гэта робіць з сяброўства. Я яму проста верыла.

Усё выяснілася, калі мой муж неспадзявана аб'явіў мне, што выбіраецца ад мяне, бо прыйшоў да вываду, што ўсё тое, што было між намі, не мела ніякага сэнсу. Ёсць жанчына, якая чакае яго дзіцяці, і гэта ёсць мэта яго жыцця. І... перайшоў жыць да яе. Так спакойна, быццам бы тыя пятнаццаць гадоў, якія мы пражылі разам, абсалютна нічога не значылі для яго.

Не ведаю, не разумею, чаму ён гэтак зрабіў. Ці так страшна хацеў дзіцяці, што адышоў ад жонкі ў імя таго, што будзе мець дачушку... І як я магла празяваць такое? Столькі ж рабіла людзям...

**Агата**

Агата! Найлягчэй даваць парады іншым. Мо ў віры гэтых сваіх заняткаў ты празявала, што канчаецца яго каханне. А мо проста ты занадта скакала каля яго, будзячы ў яго перакананне, што і так ты будзеш усё жыццё яго дзяўчынкай — маленькай, паслухмянай і... каханай. Не думаю, што дзіця тут вырашыла справу. Задаткі на разводніка ён меў здаўна, калі перабіраў дзяўчат — сваіх сяброўкаў.

Раячы іншым (калі ты яшчэ гэта робіш), не забудзься пра тое, што і псіхолаг, ён толькі чалавек. Старайся дапасоўваць іх сітуацыі і да сябе. Але што ж ты тут зробіш, калі шавец заўсёды без ботаў ходзіць.

**Сэрцайка**